*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*




# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 19 кастрычніка 1990 г. № 42 (3556) ● Цана 10 кап.



# Беларускаму друку пагражае катастрофа

# БЕЛАРУСКАМУ ДРУКУ ПАГРАЖАЕ КАТАСТРОФА

## Ліст у Вярхоўны Савет БССР

Паважаныя народныя дэпутаты!

Звярнуцца да вас з гэтым пісьмом нас прымусіла катастрафічнае становішча, у якім апынуліся вядучыя літаратурна-мастацкія і грамадска-палітычныя часопісы рэспублікі — «Полымя», «Нёман», «Беларусь».

У выніку нігілістычных тэндэнцый у адносінах да нацыянальнай культуры і літаратуры, абсалютызацыі прынцыпу вяршэнства гаспадарчага разліку, непрымальнага да культуры наогул, а тым больш да культуры беларускай, якая панесла надзвычай цяжкія страты ад дваццатых гадоў да нашага часу, часопісы фактычна засталіся без фінансавых, матэрыяльна-тэхнічных сродкаў, пад пагрозай само іх існаванне.

Нагадаем, што «Полымя» — старэйшы беларускі літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс, выдаецца з 1922 года.

«Нёман» — адзіны ў Беларусі аналагічны рускамоўны часопіс, большасць тыражу якога (каля 50 тысяч экземпляраў) расходзіцца па-за межамі рэспублікі, спрыяючы шырокай прапагандзе нашай нацыянальнай культуры, навукі, літаратуры, эканомікі.

«Беларусь» — адзіны ілюстраваны шматпрофільны масавы часопіс больш чым з 60-гадовай гісторыяй, які выпісваюць амаль у сарака краінах свету.

Гэтыя выданні, без перабольшання можна сказаць, з'яўляюцца сёння прыкметнымі асяродкамі развіцця беларускай нацыянальнай культуры.

Дарэчы, у Беларусі на сённяшні дзень менш літаратурна-мастацкіх выданняў, чым у любой іншай саюзнай рэспубліцы. А яшчэ ў дваццатыя гады, на пачатку станаўлення рэспублікі, літаратурных выданняў у нас было ў два-тры разы болей.

Сёння справа нацыянальнага адраджэння Беларусі аб'яўлена дзяржаўным клопатам, як гэта і робіцца ў любой цывілізаванай краіне. Але калі глядзець праўдзе ў вочы, то даводзіцца з сумам канстатаваць, што прынятая рэспубліканская культурная праграма воляю недальнабачных кіраўнікоў ператвараецца ў дэкларацыю, дымавую завесу, пад прыкрыццём якой ідзе далейшае разбурэнне беларускай нацыянальнай культуры.

Сённяшнія фінансісты патрабуюць, каб культура не толькі ўтрымлівала сябе, а і давала прыбытак дзяржаве. Культура ўтрымлівае сябе — выхаваннем сапраўды цывілізаванага чалавека, культурай працы, культурай быту, культурай чалавечых узаемаадносін.

Культура (і літаратура, як адзін з яе галоўных элементаў) дае прыбытак, і не малы, нават калі вымяраць яго грашыма. Хоць сапраўдны прыбытак ад уздзеяння культуры ацаніць змогуць толькі нашчадкі. Бо якімі стратамі і ў якой валюце мы вымяраем бездухоўнасць, цынізм і амаральнасць, якія ўсё болей і болей раз'ядаюць душы людзей, раз'ядноўваюць пакаленні, нацыі, вядуць грамадства да самазнішчэння.

Усе мы жывём пад Чарнобылем, усе мы жывём трагедыяй нашага народа. Але мы не можам не думаць пра яшчэ адзін, не меней страшны — духоўны Чарнобыль.

І таму мы не маем права глядзець на культуру вачыма недальнабачных фінансістаў!

Мы прывыклі да ўсялякіх эксперыментаў — коксагызных, меліярацыйных, палітычных, эканамічных, нацыянальных і наднацыянальных. Цяжка адысці ад адчування, што сённяшняя сітуацыя з беларускай культурай — гэта таксама чарговы эксперымент. «Сканае — так ёй і трэба. Выжыве — тады паглядзім».

А што глядзець? І сляпому відаць, што без дзяржаўнай падтрымкі на сённяшнім неразборлівым камерцыйным кірмашы пры свядомым сабатажы пэўных службовых асоб яна не выжыве.

Пакуль што ідуць спрэчкі пра тое, за кошт якіх сродкаў дапамагаць часопісам. Людзі, надзеленыя высокімі дзяржаўнымі пасадамі і, трэба думаць, адпаведным дзяржаўным мысленнем, даводзяць адзін аднаму, што не яны, а нехта іншы павінен клапаціцца аб літаратурных часопісах.

Дарэчы будзе сказаць, што дыскрымінацыйныя адносіны да літаратурных часопісаў — гэта адносіны і да Саюза пісьменнікаў Беларусі, да ўсіх пісьменнікаў.

Яркім сведчаннем сапраўды жабрачага існавання літаратурных выданняў з'яўляецца хоць бы той факт, што на сённяшні дзень не вырашана пытанне аб павышэнні заработнай платы супрацоўнікам трох нашых часопісаў. Работнікам жа ўсіх астатніх — партыйных, камсамольскіх, ведамасных выданняў зарплата павышана, прычым, даволі істотна і не першы раз за апошнія гады. А вось зарплата супрацоўнікам нашых часопісаў не павышалася больш дваццаці гадоў. І дзіўна і смешна, што сёння аклад галоўнага рэдактара, напрыклад, часопіса «Полымя» роўны акладу машыністкі-перакладчыцы ў "Вечернем Минске". Літаратурныя работнікі нашых часопісаў — людзі высокай прафесійнай кваліфікацыі — атрымліваюць менш, чым дворнікі ЖЭС горада Мінска (140 рублёў у першых супраць 164 у другіх). А што гаварыць пра тэхнічны персанал?

28 чэрвеня 1990 года была прынята пастанова Дзяржаўнага камітэта СССР па працы і сацыяльных пытаннях і Сакратарыята ВЦСПС № 253 (10-5) «О совершенствовании организации заработной платы и введении новых условий оплаты труда, тарифных ставок и окладов работников редакций газет и журналов, газетных, газетно-журнальных издательств и объединений». Аднак і яна ў дачыненні да нашых трох часопісаў ігнаруецца.

«Няма грошай, бюджэт трашчыць», — апраўдваў сітуацыю на нарадзе ў Саўміне БССР намеснік міністра фінансаў рэспублікі.

Тут — ці неразуменне таго, пра што ідзе гаворка, неразуменне ролі культуры і літаратуры ў жыцці грамадства, якую нельга ўзважыць ніякімі рублямі, ці свядомае жаданне задушыць тое народнае, нацыянальнае, што за семдзесят гадоў яшчэ не задушана.

Дарэчы — пра бюджэт. Чаму ён трываў, калі істотна павышаліся стаўкі тысячам, дзесяткам тысяч чыноўнікаў розных органаў і ведамстваў розных узроўняў, у тым ліку і работнікам Міністэрства фінансаў, а «затрашчаў» толькі тады, калі гаворка зайшла пра паўсотні работнікаў літаратурна-мастацкіх выданняў?

Інакш як адкрытым здзекам з людзей, якія ледзь не на голым энтузіязме на працягу дзесяцігоддзяў рыхтуюць і выдаюць часопісы, як дыскрымінацыяй беларускай культуры і літаратуры, такую палітыку назваць нельга.

Усе гэтыя пытанні ўзніклі не сёння. Рэдакцыі ставілі іх перад адпаведнымі партыйнымі, савецкімі, дзяржаўнымі органамі ўжо не адзін год, а асабліва настойліва сёлета. Але ў выніку мы не толькі не прасунуліся наперад, а адкаціліся назад. Падпіска на нашы выданні на 1991 год правалена. Прычына — літаратурныя часопісы не трапілі ў сёлетнія падпісныя каталогі, таму што не быў своечасова вызначны іх намінальны кошт, а ён прама залежыць ад тых сродкаў, якія нам будуць выдзелены, але гэтага, як ужо гаварылася, пакуль што ніхто не спяшаецца рабіць.

Спачатку была перадвыбарная кампанія ў Саветы, потым выбары, потым першая сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі і фарміраванне новага ўрада, потым пайшла паласа адпачынкаў, цяпер — другая сесія Вярхоўнага Савета. Як бачыце, усё ідзе па крузе. Для нашых жа часопісаў гэты круг звузіўся да памеру пятлі. Гэта і прымусіла нас звярнуцца да вас, паважаныя народныя дэпутаты, як да апошняй інстанцыі.

Справа не церпіць адкладу. Рэдакцыйныя калектывы пад пагрозай распаду. Праз нейкі недалёкі час часопісы могуць не выйсці.

Нам уяўляецца, што вырашэнне пытання з часопісам «Полымя», «Нёман», «Беларусь» з'явілася б сведчаннем дзелавога пачатку рэалізацыі культурнай праграмы ў рэспубліцы ў вачах шырокай грамадскасці.

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ,**
**галоўны рэдактар часопіса «Полымя»;**
**Анатоль КУДРАВЕЦ,**
**галоўны рэдактар часопіса «Нёман»;**
**Алесь ШАБАЛІН,**
**галоўны рэдактар часопіса «Беларусь».**

## Ліст у рэдакцыю

Выданне кніг, часопісаў, газет на беларускай мове — адзін з галоўных чыннікаў яе адраджэння. Аднак сёння, калі мы, дарэчы сказаць, урачыста святкуем 500-гадовы юбілей нашага першадрукара, даводзіцца, на жаль, канстатаваць, што беларускі друк — у катастрафічным стане. Ці ёсць тут спадзяванні на Закон аб мовах або на нядаўна прынятую Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў? Трэба шчыра сказаць: няма.

Няма таму, што з гэтых дакументаў не відаць, які ж механізм будзе забяспечваць пашырэнне беларускага друкаванага слова. Учарашняя практыка загадаў і адміністравання адыходзіць у нябыт, сёння яна нядзейсная. Зварот да пачуццяў патрыятызму, грамадзянскага абавязку ў нашым прагматычным і дэнацыяналізаваным грамадстве асабліва поспеху таксама не мае. Чым жа зацікавіць выдаўцоў, каб яны ставіліся да роднае мовы не так, як ставіцца нязычлівая мачыха да падчаркі?

Што датычыць нерэнтабельных беларускамоўных выданняў, то яны павінны быць на дзяржаўнай датацыі. Гэта бясспрэчна. Аднак такі падыход недастатковы, бо па сутнасці ён толькі кансервуе сённяшні бядотны стан беларускага друкаванага слова, але не дае перспектывы, не змяняе прынцыпова становішча.

Наша зямля за сваю доўгую гісторыю зазнала шмат няшчасцяў, але штораз адраджалася. Што рабілі нашы продкі, калі які-небудзь горад бязлюднеў пасля пошасці або руйнаваўся ворагам? Ужывалі надзейны спосаб: вызвалялі ад падаткаў на некалькі гадоў. І без заклікаў, без каманднa-адміністрацыйных захадаў, без «інтэрнацыянальнай дапамогі» горад станавіўся на ногі, ізноў квітнелі рамёствы і гандаль, ізноў віравала жыццё...

Беларуская мова трапіла ў бяду, страшнейшую за пошасць і варожую навалу. І нам сама час павучыцца ў сваіх мудрых продкаў. Трэба на ўвесь тэрмін уводзення Закона аб мовах (г. зн. да 2000 года) скасаваць падаткі на прыбытак для ўсіх беларускамоўных выданняў — газет, часопісаў, кніг, брашур і г. д. Прычым незалежна ад таго, выпускаюцца яны дзяржаўнымі ўстановамі, грамадскімі арганізацыямі ці кааператывамі.

Мне могуць запярэчыць, што гэта нічога не дасць, бо прыбытковых выданняў на беларускай мове амаль няма. Так. Сёння мы іх налічым няшмат, асабліва пасля ўжо запланаванага павышэння кошту паперы і расцэнак на друкарскія работы. Але ў перспектыве такая падатковая палітыка ў дачыненні да выдання і распаўсюджвання літаратуры на беларускай мове можа стацца моцным стымулам.

І яшчэ адзін важны момант. Калі дзяржава бярэ на сябе клопат па адраджэнні і развіцці дзяржаўнае мовы, дык мусіць быць і адпаведнае рэальнае забеспячэнне — паперай, іншымі матэрыяламі, а таксама паліграфічнай базай. А таму выпуск літаратур на беларускай мове трэба абавязкова ўключыць у дзяржзаказ.

Толькі пры такіх умовах можна спадзявацца, што закон будзе дзейнічаць, а праграма (у раздзеле кнігавыдання і друкаваных сродкаў масавай інфармацыі) будзе паспяхова ажыццяўляцца.

**Зміцер САНЬКО,**
**намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Навука і тэхніка», старшыня выдавецкай камісіі ТБМ.**

## Ліст з рэдакцыі

**Рэспубліка, па ўсім відаць, мяркуе абвясціць мараторый на культуру. Беларускаму друку пагражае катастрофа.**

**Падпісной ліхаманкай, жаданнем газет падабацца чытачу і— прадавацца, прадавацца можна яшчэ вытлумачыць іншапланетны дэсант, шматлікія перадрукі чужых «цвікоў» і многае іншае, чым не грэбуюць непераборлівыя калегі.**

**Разам з тым распачалася сапраўдная кампанія па выгнанні беларускага слова са старонак друку. Няйначай як масавы псіхоз. Гэткая «беларусізацыя па-беларуску». Даходзіць да абсурду—галоўны рэдактар «Народнай газеты» паставіў кропку над рускім «и».**

**Калі ўсё пойдзе так, як ідзе, неўзабаве давядзецца адраджаць «Нашу Ніву». Зноў у Вільні ці на гэты раз у Кліўлендзе.**

**Зрэшты, «ЛіМ» не будзе выходзіць ні па-руску, ні па-польску, ні паляшуцкаю моваю. Сёння нас хвалюе іншая праблема—ці будзе «ЛіМ» увогуле выходзіць?**

**На мінулым тыдні рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва» афіцыйна паведамілі, што з 1 студзеня 1991 года друкарня выдавецтва ЦК КПБ не збіраецца ажыццяўляць набор і вёрстку нашай газеты. Такім чынам, «ЛіМу» трэба альбо шукаць іншую паліграфічную базу, альбо спыняць сваё існаванне. (Дарэчы, такое вось супадзенне—Дзяржкамдрук БССР, якім кіруе—яшчэ адно супадзенне—член нашай рэдкалегіі А. Бутэвіч, не спяшаецца рэгістраваць «ЛіМ»).**

**Здавалася б, нічога страшнага, адна друкарня апынулася ў цяжкім становішчы, не ў стане забяспечыць выхад той ці іншай газеты і сумленна ў гэтым прызналася. Заключым дагавор з іншай друкарняй,—і, калі ласка, выпісвайце і чытайце «ЛіМ».**

**Але не будзем наіўнымі, ведаючы, што за друкарня адмовіла нам у супрацоўніцтве. Паліграфічны гігант, манапаліст у сваёй галіне. Той, каму ён належыць, паранейшаму можа кіраваць галоснасцю. І—кіруе. Адпаведна і друкарня выдавецтва ЦК КПБ мае магчымасць выпускаць «Литву Советскую» і не мае—«ЛіМ» беларускі.**

**Што ж нам рабіць? Звярнуцца да ўрада суверэннай Літвы з просьбай даць прытулак беларускаму штотыднёвіку? Ці спачатку—да парламента і ўрада сваёй рэспублікі? Абвяшчэнне Дэкларацыі аб суверэнітэце, наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай—сатрасанне паветра, прыгожы жэст альбо ўсведамленне дзяржаўнай адказнасці?**

**Беларускаму друку пагражае катастрофа!**

**Мы звяртаемся і да нашых чытачоў. Сёння індэксы беларускіх выданняў у каталогу «Саюздруку» — своеасаблівы рахунак фонду нацыянальнага адраджэння. Нагадаем адзін з такіх «рахункаў»: 63856, «Літаратура і мастацтва», кошт гадавой падпіскі 5 рублёў 16 капеек.**

**ЗА ВАШУ І НАШУ ГАЗЕТУ!**

Рыгор БАРАДУЛІН

## Мы!

Ад сораму мы чырванеем цэглаю,
А верад выхваляцца не сціхае.
Мы адгароджаны ад свету цэлага,
Нібы ваўкі,
Чырвонымі сцягамі.

Мы ганарымся, радуемся, цешымся
І забаронамі і абаронаю.
А працаваць, як свет, не дужа чэшымся.
З нас кожны ў свеце белаю варонаю.

Рыпім-скрыпім іржавымі завескамі
Аглушаных дзвярэй дзяржаўнай клеці.
Цвёрдакаменныя мы ўсе.
Савецкія,
А гэта значыць,— лепшыя на свеце!

Давер наіўны з-за гары папер
Намеру з добрай мінаю міргае:
Зроблена ў СССР —
Рамонту не падлягае!

# ПОЛЬШЧА—БЕЛАРУСЬ: дыялог на роўных

14—16 кастрычніка ў Мінску з афіцыйным візітам, па запрашэнні ўрада БССР, знаходзіўся міністр замежных спраў Рэспублікі Польшча Кшыштаф Скубішэўскі.

Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства РП і суправаджаючыя яго асобы былі прыняты Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР Мікалаем Дземянцеем.

Пад час сустрэчы польскага міністра са Старшынёй Савета Міністраў Беларусі падкрэслівалася, што Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР служыць асновай для развіцця гандлю паміж рэспублікамі як двума суверэннымі партнёрамі.

Нямала ўвагі ў ходзе гэтай гутаркі было ўдзелена праблемам станаўлення і развіцця культур меншасцяў — беларусаў у Польшчы і палякаў у Беларусі. Падкрэслівалася неабходнасць надання гэтаму працэсу канструктыўнасці, большага ўзаемаразумення і паслядоўнасці.

Адбыліся перагаворы паміж міністрам замежных спраў БССР Пятром Краўчанкам і К. Скубішэўскім.

Асноўная ўвага ў ходзе перагавораў была ўдзелена пытанням двухбаковых адносін. Адзначана культурнае і этнічнае падабенства беларускага і польскага народаў, звязаных адзін з адным сваёй гісторыяй. Зыходзячы з гэтага, бакі выказалі гатоўнасць умацоўваць асновы дружалюбнага добрасуседскага суіснавання Беларусі і Польшчы, развіваць узаемаразуменне паміж двума народамі. Выказана ўзаемнае імкненне да расшырэння ўзаемадзеяння ў палітычнай, эканамічнай, экалагічнай і гуманітарнай сферах.

Бакі былі адзіныя ў ацэнцы маштабаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і адзначылі, што для мінімізацыі яе вынікаў неабходна дапамога міжнароднага супольніцтва.

Міністры абмяняліся думкамі па раду канкрэтных прапаноў. У якасці першачарговых мер было намечана абмеркаваць пытанне аб устанаўленні дыпламатычных і консульскіх адносін, распрацаваць пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне маладзёжных абменаў, разгледзець магчымасць стварэння на ўзаемнай аснове інфармацыйна - культурных цэнтраў.

Бакі згадзіліся адносна важнасці працягу кансультацый паміж знешнепалітычнымі ведамствамі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Рэспублікі Польшча.

**БЕЛТА.**

□

15 кастрычніка ў генеральным консульстве Рэспублікі Польшча ў Мінску быў наладжаны прыём з нагоды візіту на Беларусь міністра замежных спраў Польшчы. Ля консульства міністра і суправаджаючых яго асоб сустрэў пікет мінчукоў. На плакатах, якія трымалі ў руках пікетчыкі, было напісана: «Мы памятаем Грабарку!» (праваслаўны храм — святыня беларусаў Беласточчыны, спалены ў нядаўні час польскімі экстрэмістамі), «Не забудзем Бярозу Картузскую!» (канцэнтрацыйны лагер часоў польскай акупацыі Заходняй Беларусі, праз які прайшлі многія дзеячы беларускага нацыянальнага руху), «Касцёл для Бога, а не для палітыкі», «Масавыя звальненні беларусаў з працы — гэта шавінізм», «Ксёндз — пасланец Бога, а не агент суседняй дзяржавы», «Беларусы — гэта карэнны народ Беласточчыны», «Далоў антыбеларускі тэрор!», «Беларусы Беласточчыны, мы з вамі!».

Прадстаўнікі консульства абяцалі давесці гэтыя пратэсты да ведама Варшавы. Пікетчыкі мелі гутарку з журналістамі, якія суправаджалі міністра ў паездцы.

НАШ КАР.

## Яўгеній Еўтушэнка — ахвярам Чарнобыля

Учора ў Палацы спорту ў Мінску адбыўся творчы вечар вядомага савецкага паэта, грамадскага дзеяча Яўгенія Еўтушэнкі. Ён праведзены па ініцыятыве друкарскага вытворчага аб'яднання «Логас». Збор ад мерапрыемства цалкам перадаецца на адсяленне ў чыстыя зоны пацярпеўшых ад радыяцыі жыхароў Магілёўшчыны і Гомельшчыны.

На ліквідацыю вынікаў чарнобыльскай аварыі ў Беларусі *Я. Еўтушэнка накіроўвае і большую* частку выручкі ад продажу сваёй кнігі «Белорусская кровинка», выпушчанай «Логасам» з прадмовай Васіля Быкава. У гэты зборнік увайшлі творы розных гадоў. Адметнасць кнігі ў тым, што ў ёй гучыць беларуская тэматыка, а таксама змешчаны здымкі беларускіх родзічаў паэта.

## Госці з Ліёна

11 кастрычніка ў рамках дзён Ліёна ў Мінску адбылася сустрэча членаў французскай дэлегацыі з Беларускай каталіцкай грамадой «Чырвоны касцёл». Сустрэча праходзіла ў Доме культуры Мінскага тонкасуконнага камбіната. У складзе французскай дэлегацыі былі святар айцец Рэнэ, дзеяч маладзёжнага руху Мішэль Асторг, адзін з кіраўнікоў таварыства дружбы з нашай краінай Марыя-Луіза В'яль.

Ішла гаворка аб вечных каштоўнасцях хрысціянскай маралі ў зменлівым свеце. Госці з Францыі адзначылі, што высокі ўзровень жыцця не пазбаўляе грамадства ад пагрозы духоўнага заняпаду, што пераадоленне спажывецкіх настрояў і выхаванне ў моладзі пачуцця адказнасці — праблема агульная для абедзвюх краін. На заканчэнне сустрэчы перад яе ўдзельнікамі выступіў студэнцкі хор Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

НАШ КАР.

# З 1 лістапада— на рынак

**такое рашэнне прынята на II нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі**

У сувязі з пераходам Беларусі на рыначныя эканамічныя адносіны парламенту неабходна разгледзець пакет новых прававых актаў, закліканых забяспечыць рэалізацыю ўрадавай праграмы.

Першым на парадак дня быў вынесены Закон «Аб уласнасці ў Беларускай ССР», прычым два альтэрнатыўныя праекты, «урадавы» і «апазіцыйны». Спрэчкі разгарнуліся, галоўным чынам, па пытанні іх адпаведнасці ці неадпаведнасці дзяржаўнаму суверэнітэту рэспублікі.

На вячэрнім пасяджэнні 15 кастрычніка адбыліся два інцыдэнты, якія дазволілі многім дэпутатам ацаніць сітуацыю ў парламенце як крызісную. Нагадаем, што Савет Міністраў адклікаў увесь пакет прадстаўленых ім жа законапраектаў. Інцыдэнт другі — пратэст дэпутатаў ад апазіцыі, якія пакінулі залу ў знак нязгоды з тым, што ніводная з іх прапаноў на парадку дня не была пастаўлена на галасаванне.

Няцяжка заўважыць, што апазіцыя, асноўную частку якой складаюць дэпутаты ад БНФ, адыгрывае ўсё большую ролю ў парламенце. Як высветлілася, без удзелу «апазіцыянераў» работа сесіі немагчымая — не хапае кворуму.

Відавочна, дэпутаты пастаянна рызыкуюць трапіць у цэйтнот. Але ў гарачых спрэчках, калі эмоцыі часам сягаюць праз край, парламентарыі пакрысе выходзяць на ўзровень прыняцця рашэнняў. Так, дадаткова ў парадак дня ўключаны законапраекты аб грамадзянстве, банках і банкаўскай сістэме, Дэкрэты аб уладзе і некаторыя іншыя.

17 кастрычніка ў першым чытанні прыняты праект Закона аб уласнасці.

# Падтрымліваю і прапаную

З вялікай цікавасцю прачытаў адкрыты ліст Цэнтральнаму Камітэту Кампартыі Беларусі «Каму, якому народу служым?», падпісаны вядомымі дзеячамі беларускай культуры і навукі. Сярод іх і тыя пісьменнікі, на кнігах якіх выхоўвалася некалькі пакаленняў беларусаў (Максім Танк, Пімен Панчанка, Іван Шамякін), некаторых з іх я ведаю асабіста і нікольні не сумняваюся ў іх шчырасці і прыстойнасці.

Цалкам падзяляючы іх заклапочанасць лёсам роднай мовы і культуры, выкажу сваю прапанову.

Як вядома, ёсць пастанова аб арганізацыі Цэнтра беларускай культуры імя Францыска Скарыны. Гэтая акцыя павінна адыграць істотную ролю ў справе нацыянальнага адраджэння, але толькі пры ўмове, што яна атрымае сапраўднае грунтоўнае матэрыяльнае забеспячэнне, а не будзе чарговым «мерапрыемствам», ідэалагічнай і дэмагагічнай «паказухай».

Каб апошняга не адбылося, кампартыя Беларусі, Цэнтральны Камітэт маглі б зрабіць шчодры, шырокі жэст — аддаць бязвыплатна пад Цэнтр беларускай культуры цудоўны будынак — новы дом палітасветы, што за стадыёнам «Дынама». Думаю, што беларускі народ, інтэлігенцыя па заслугах ацанілі б такі высакародны ўчынак КПБ, які на справе сведчыў бы пра тое, што «народ і партыя —адзіныя», што «партыя існуе дзеля народа». Гэта, безумоўна, падыме, умацуе аўтарытэт беларускіх камуністаў, у чым яна ў апошні час мае вялікую патрэбу. Справа беларускай культуры і мовы — справа ўсяго народа.

С. ПАДОКШЫН,
доктар філасофскіх навук,
вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права АН БССР.

# Спадзяванняў, бадай, няма...

**Камуністы «ЛіМа» прыпынілі сваё членства ў партыі**

Апошнім часам у лістах многіх лімаўскіх чытачоў гучыць матыў недаверу да цяперашняга кіраўніцтва кампартыі Беларусі. Паведамляючы пра факты бядотнага становішча нашай мовы і культуры, распавядаючы пра шматлікія выпадкі занядбанасці і запусцення на ніве духоўнага жыцця нашага народа, чытачы з горыччу адзначаюць, што партыйныя органы і іх кіраўнікі ставяцца да ўсяго гэтага абыякава, што многія партыйныя функцыянеры розных узроўняў спавядаюць нацыянальны нігілізм.

Мы, камуністы-лімаўцы, разумеем і падзяляем боль і горыч чытачоў штотыднёвіка.

5 кастрычніка «ЛіМ» і «Звязда» апублікавалі ліст дваццаці двух пісьменнікаў-камуністаў Цэнтральнаму Камітэту кампартыі Беларусі. У лісце выказана сумненне ў тым, што партыя, у назве якой ёсць слова Беларусь, дбае перш за ўсё пра беларускі народ, спрыяе захаванню яго мовы і яго традыцый, адраджэнню нацыянальнай самасвядомасці і гістарычнай памяці.

Аўтары ліста пішуць, у прыватнасці: «Кіраўніцтва партыі дасюль не выказала па сутнасці сваіх адносін да «Закона аб мовах у Беларускай ССР», «Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР», не звярнулася з заклікам да ўсіх камуністаў, каб падтрымалі гэтыя важныя дакументы, паказалі прыклад у авалоданні і карыстанні беларускай мовай, разуменні той надзвычайнай сітуацыі, якая склалася ў духоўным жыцці рэспублікі. Не распрацавана свая партыйная праграма пераходу на мову народа, арганічнай часткай якога партыя павінна з'яўляцца і якому павінна служыць, не праведзена ніводнага пленума, прысвечанага нацыянальнаму адраджэнню, што ва ўмовах плюралізму і ўзнікнення новых палітычных фарміраванняў і партый ставіць КПБ, усіх нас, яе членаў, у незайздроснае, двухсэнсоўнае становішча...».

Пісьменнікі-камуністы заканчваюць ліст спадзяваннем на тое, што хоць да XXI з'езда кампартыі Беларусі часу засталося няшмат, але «яго даволі, каб падумаць над пытаннямі, якія, мяркуем, хвалююць не адных нас і на якіх мы палічылі патрэбным засяродзіць увагу», — спадзяваннем на тое, што ў кіраўніцтве партыі прыслухаюцца да гэтых слоў і зробяць адпаведныя высновы.

На жаль, у нас спадзяванняў, бадай, няма. Не падмацавалі іх і нядаўнія дакументы кампартыі Беларусі. Маем на ўвазе праекты «Пазіцыі і праграмы дзейнняў кампартыі Беларусі ў сувязі з пераходам рэспублікі на рынычныя адносіны» і «Канцэпцыі Праграмы камуністычнай партыі Беларусі». У апошнім дакуменце чытаем: «Галоўная мэта нацыянальнай палітыкі КПБ — поўнае раўнапраўе ўсіх грамадзян рэспублікі незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці, мовы, адносін да рэлігіі, часу пражывання на тэрыторыі Беларусі, дасягненне сапраўды інтэрнацыянальнага адзінства савецкіх людзей, аднаўленне паважлівых адносін да нацыянальных моў, культур, традыцый і звычаяў, забеспячэнне згоды паміж усімі грамадзянамі». Усё гэта добра, вядома, але ж зноў — тут няма нават і намёку на прыярытэт нацыянальных каштоўнасцей, няма нават згадкі пра інтарэсы менавіта беларускага народа. Ну, а словы пра тое, што «Кампартыя Беларусі... будзе актыўна працаваць над рэалізацыяй Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы...», сёння, на фоне амаль што адкрытага ігнаравання і Закона аб мовах, і праграмы яго рэалізацыі, гучаць, выбачайце, проста здзекліва.

Мы не можам не бачыць і таго, што кіраўніцтва кампартыі Беларусі не знайшло свайго месца ў дэмакратычным руху, накіраваным на перагляд замшэлых догмаў камандна-адміністрацыйнай сістэмы, выступае ў гэтых пытаннях з крайне кансерватыўных пазіцый.

Не, няма ў нас даверу да сённяшняга рэспубліканскага партыйнага кіраўніцтва, да таго, што і як яно робіць, як уплывае на фарміраванне і ажыццяўленне сацыяльна-эканамічнай, а найперш нацыянальнай палітыкі ў Беларусі. Нейкія спадзяванні можна звязваць хіба толькі з новым кіраўніцтвам, якое будзе абрана на XXXI з'ездзе КПБ.

А пакуль што партыйная група рэдакцыі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» аднадушна парашыла: сваё членства ў партыі прыпыніць...

Падзея гэтая адбылася напрыканцы мінулага года, а дакладней, 27 снежня. Яе чакалі, пра яе думалі, на яе ўскладалі спадзяванні, але калі яна, нарэшце, адбылася, дык яе неяк проста амаль не заўважылі. «ЛіМ», праўда, адгукнуўся, змясціў матэрыял, але, на жаль, не вельмі грунтоўны і падрабязны.

А. між тым, падзея тая была вартая куды больш пільнай увагі. Таму «ЛіМ» вырашыў вярнуцца да яе. Тады, 27 снежня мінулага года, было ўтворана Беларускае краязнаўчае таварыства. З тае пары прайшло нямала часу. Вось наш няштатны карэспандэнт і сустрэўся з Генадзем Аляксандравічам КАХАНОЎСКІМ, старшынёй БКТ, каб пачуць яго думку пра стан краязнаўства ў рэспубліцы, пагаварыць пра справы таварыства, перспектывы яго работы.

## Беларускае краязнаўчае таварыства:

# Ніва нашага патрыятызму



**— Генадзь Аляксандравіч, Беларускае краязнаўчае таварыства існуе вось ужо дзевяць месяцаў. Тэрмін, пагадзіцеся, у наш вірлівы час, калі амаль штодзённа мяняецца то палітычная, то эканамічная сітуацыя ў краіне, не малы. А становішча таварыства — тое ж самае? Яно па-ранейшаму як гуртон аматараў роднага краю: не зарэгістравана, не мае свайго друкаванага органа, разліковага рахунку і г. д. Інакш кажучы, краязнаўчае таварыства яшчэ не стала юрыдычнай асобай. А гэта азначае, што яго можна і не ўспрымаць сур'ёзна, і адмахвацца, як ад назойлівай мухі, а то і прыкрыкнуць: незарэгістраванае таварыства — амаль што нелегальнае, таму сядзіце ціха, як мыш пад венікам, і не вытыркайцеся. Чаму ж так? Чаму БКТ дагэтуль не зарэгістравана?**

— У свой час усе неабходныя дакументы былі пададзены ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета. Але ад былога першага намесніка Старшыні таварыша Мікуліча атрымалі адказ, што рэгістраваць наша таварыства яны не будуць на падставе інструкцыі... 1932 года. «Мы не супраць яго, але толькі калі яно будзе ў складзе Беларускага фонду культуры»,— запэўнілі нас. Для нас, для справы гэта азначала, па сутнасці, астацца на ўзроўні секцыі пры фондзе.

Дагэтуль існавала Краязнаўчая камісія пры Беларускім фондзе культуры. Я з'яўляўся яе старшынёй недзе два гады. І вось на трэцім годзе мы прыйшлі да разумення таго, што трэба стварыць краязнаўчае таварыства.

Практычна гэта азначала адрадзіць тое, што было ў нас у дваццатыя — на пачатку трыццатых гадоў: і само таварыства, і яго часопіс «Наш край». А ў нашых умовах «адрадзіць» — гэта яшчэ і «рэабілітаваць», як справу, так і людзей, што займаліся гэтай справай. Дарэчы, вельмі шмат нашых краязнаўцаў трапілі ў лапы катаў з НКУС: выдатныя вучоныя Мікола Каспяровіч, браты Самцэвічы, адзін з якіх загінуў, а другі проста адышоў ад справы, і многія, многія іншыя. Краязнаўства было фактычна разагнана і забаронена. «Наш край» быў рэарганізаваны ў «Савецкую краіну», але гэта быў найгоршы часопіс, які толькі можна сабе ўявіць; настолькі артадаксальны, што, чытаючы яго сёння, становіцца страшна — яго старонкі пахнуць сталінізмам.

А сёння мы проста павінны рэабілітаваць і адрадзіць таварыства.

**— Вось мы з вамі, Генадзь Аляксандравіч, гамонім усяго колькі хвілін, і за гэты час ці не дзесятак разоў прагучала слова «краязнаўства» і блізкія да яго. А што ж гэта такое?**

— Так, мы не заўсёды нават правільна разумеем, што гэта такое — краязнаўства. Часам кожны разумее пад гэтым словам сваё. Адзін лічыць, што гэта гісторыя краю, другі — геаграфія ці геалогія і г. д.

Я разумею краязнаўства ў яго класічным азначэнні — гэта *навуковая дысцыпліна*, якая займаецца вывучэннем як асобнай мясціны, напрыклад, вёскі, горада, так і больш вялікіх тэрыторый — раёна ці вобласці. Ведаю толькі адно — калі нехта займаецца краязнаўствам свайго раёна, я веру, што чалавек прыйдзе да пэўных вынікаў. Калі ж нехта адзін замахваецца на цэлую вобласць (а яны ў нас вялікія), з такой працы карысці будзе няшмат: немагчыма ахапіць увесь комплекс праблем гэтай навукі на такой вялікай тэрыторыі.

Бо краязнаўства патрабуе разглядзець мясцовасць і з пункту гледжання гісторыі, і культуры, і геалогіі, і геаграфічнага становішча, і багацця флоры і фауны, і кліматычных умоў, і экалогіі, і г. д. і да т. п. Інакш кажучы, яно вельмі і вельмі шматграннае. І адсюль другі бок медаля — і нумізматыка, і геральдыка, і радавод уваходзяць як састаўныя часткі ў краязнаўства, хоць паасобку яны — толькі частка краязнаўства.

**— Давайце вернемся з вамі трошкі назад. Вы гаварылі пра Краязнаўчую камісію пры Беларускім фондзе культуры, старшынёй якой і з'яўляліся. Гаварылі пра тое, што БКТ і вырасла, па сутнасці, на грунце гэтай камісіі. У чым камісія не выконвала сваіх функцый? Чаму ўзнікла неабходнасць стварыць таварыства?**

— На нейкім этапе камісія добра выконвала свае функцыі. Гэта была як разведка: пасля доўгіх гадоў поўнага заняпаду краязнаўства мы сабраліся, каб паглядзець, што ж мы маем. Наша работа мела як свае мінусы, так і свае плюсы. Так, мы здолелі аб'яднаць некалькі дзесяткаў энтузіястаў, але, з другога боку, практычна ўсе яны, або большасць, былі мінчукамі. А ці ўспомніце вы хоць якую-небудзь працу па краязнаўстве Мінска? Мне дык падабаецца, бадай, толькі кніга Зянона Пазняка «Рэха даўняга часу». Хоць яна, на першы погляд, кніга па архітэктуры горада, але напісана настолькі гусценька, абапіраючыся і на археалагічныя дадзеныя, і на гістарычныя, што гэтую працу сапраўды можна назваць і краязнаўчай...

Камісія збіралася штомесяц, потым мы палічылі, што і гэтага мала, пачалі сустракацца два разы на месяц. Вядома, што людзі з Гародні, Віцебска, Гомеля не маглі праз кожныя два-тры тыдні ездзіць на пасяджэнні.

Работы было шмат. Збіраліся нават адкрыць свой краязнаўчы народны універсітэт. Анатоль Пятровіч Грыцкевіч, які актыўна супрацоўнічаў з намі, павінен быў стаць яго рэктарам. Аднак, як гэта ў нас часта бывае, распрацаваныя планы і лекцыі універсітэта некага напалохалі, некаму стала страшна: «Што з гэтага будзе?» Краязнаўства ж заўсёды баяліся, бо яно нясе элементы патрыятызму. І вось гэтая боязь адраджэння беларускай культуры, беларускай самасвядомасці, якая цвіла і ў трыццатыя, і ў пасляваенныя гады, і ў гады застою, спрацавала і зараз. Універсітэт адкрыць не далі. Мы не ведаем, дзе канкрэтна — у кабінеце Паўлава ці Антановіча — была зарэзана ідэя універсітэта, але што без удзелу ЦК тут не абышлося — вядома абсалютна дакладна.

У камісіі мы правялі вялікую работу і па падрыхтоўцы ўстаноўчага з'езда. Выявілі краязнаўцаў: многа-мала, а іх набралася каля трох сотняў. Нехта скажа: мала. Не, не мала, бо сапраўдных краязнаўцаў няшмат. Пасля чыстак, якія працягваліся дзесяцігоддзямі, людзей, што сур'ёзна займаюцца вывучэннем роднага краю, засталося ці вырасла новых няшмат.

Таму сёння я магу сказаць, што камісія выканала свае функцыі: мы падрыхтаваліся да ўтварэння таварыства, на працэнтаў восемдзесят распрацавалі праграму «Спадчына», якая сёння, на жаль, практычна не выконваецца, арганізоўвалі экспедыцыі, напрыклад, супраць праекта ГЭС на Даўгаве і г. д. І тут вялікае дзякуй і Анатолю Пятровічу Грыцкевічу, і Алегу Анатольевічу Трусаву, і Яўгену Сяргеевічу Куліку, і нябожчыку Міхаілу Фёдаравічу Дубянецкаму, і маладому энтузіясту Сяргею Вітушку, і многім іншым нашым сябрам.

**— І вось Беларускае краязнаўчае таварыства існуе. Што б вы маглі запісаць сабе ў актыў за гэты час? Што паспрабавалі ці паспелі зрабіць?**

— Можа быць, больш плённы, як гэта ні парадаксальна, быў той час, калі мы працавалі ў межах краязнаўчай камісіі, чым цяпер, калі аформіліся як таварыства. Тады мы былі пад крылом фонду культуры, а зараз... У нас няма нават памяшкання, каб сабрацца. Нас не рэгіструюць, таму ў нас няма самых неабходных штатных адзінак, якія б непасрэдна займаліся справамі таварыства. Зараз, напрыклад, на грамадскіх пачатках у фондзе культуры вядзе гэтую работу Алесь Кіпцэвіч. Але ж у яго асноўная работа зусім іншая, і шчырае дзякуй яму проста за адданасць і добраахвотнасць. Няма разліковага рахунку — няма фінансаў. Няма фінансаў — немагчыма аніякая выдавецкая ці асветніцкая дзейнасць, за выключэннем таго, што нехта з нас з'ездзіць у якую-небудзь школку ці музей.

Але гэтыя цяжкасці арганізацыйнага перыяду не выключылі нас поўнасцю са сферы практычных дзеянняў. Усё, што ў нашых сілах, мы рабілі і будзем рабіць...

**— Генадзь Аляксандравіч, колькі слоў пра асноўныя напрамкі вашай дзейнасці, у тым ліку і пра тыя, якія пакуль не выконваюцца, але якія прадугледжаны вашымі планамі і праграмай.**

— Перш за ўсё, нам трэба пераадолець тэндэнцыі, якія склаліся ў застойныя часы. Што я маю на ўвазе: краязнаўства тады было празмерна і без усялякай меры заідэалагізавана і запалітызавана. Работа зводзілася да руху «чырвоных следапытаў», да вывучэння «развітога сацыялізму» — якія мы разумныя, якія багатыя, якую стварылі новую культуру і г. д. У справаздачах называлі больш тысячы музеяў Леніна, а фактычна сярод іх не было ніводнага, дзе былі б рэдкасныя экспанаты. Знарок рабілася так, каб людзі не судакраналіся з нашай спадчынай. Я і сам гэта адчуў, працуючы ў музеі. Памятаю 69-ты год, калі мяне звальнялі з работы фактычна за тое, што вёў экскурсіі на беларускай мове, за тое, што больш даследаваў нашу старажытнасць, а мне казалі: «Зачем?» Вялікую Айчынную можна вывучаць, ну, а рэвалюцыю і грамадзянскую вайну ўжо асцярожна, а лепш за ўсё — апошнія гады, нашыя размаляваныя дасягненні. Менавіта тады і пачалі паўсюдна з'яўляцца «музеі народнай славы», якія часта і музеямі назваць цяжка. А такіх і цяпер у рэспубліцы

(Працяг на стар. 6—7).

# Сапраўды па просьбе капылян...

**Мяняецца час. Змяніліся і нашы адносіны да рэлігіі, якая доўгі час пагардліва называлася «опіумам для народа» і несла на сабе цяжкі крыж рэпрэсій і разбурэнняў.**

**Адчыняюцца і рэстаўрыруюцца культавыя будынкі, з экранаў тэлевізараў гучыць слова святароў, транслiруюцца рэпартажы з храмаў.**

**Адкрылася царква і ў Капылі. Што ведалі мы пра гісторыю гэтага старадаўняга, знявечанага помніка дойлідства? Амаль нічога. Між тым, у адным з царкоўных выданняў сказана, што капыльская царква была пабудавана ў 1866 годзе «во имя Воздвижения Честного и Животворного Креста Господня» на сродкі з дзяржаўнае казны коштам у 14 тысяч 500 рублёў.**

**Царква ўяўляла цэлы комплекс збудаванняў з асобнай званіцай у 15 званоў, зялёным дыванам цвінтара, атуленага вакол мураванай агароджай. Пад гукі царкоўнай званіцы людзі збіраліся на малебны, адыходзілі *на вечны пакой*, збягаліся на пажар, выходзілі на дэманстрацыі і ўзброеную барацьбу з воінствам мясцовага прыстава Вабішчэвіча ў час першай рускай рэвалюцыі.**

**Але з пачатку дваццатых гадоў нават зайсці ў царкву лічылася вялікай крамолай. Першы старшыня ўрада Савецкай Беларусі Зміцер Хведаравіч Жылуновіч (Цішка Гартны) ледзь не паплаціўся высокай дзяржаўнай пасадай за тое, што наважыўся зайсці ў гэты храм і пахаваць свайго блізкага родзіча па звыклай хрысціянскай абраднасці. А неўзабаве святар і клірасны хор адспявалі сваю апошнюю песню. Некуды пазвозіліся званы, былі знішчаны іконы, іншыя прадметы культу. Нейчыя бязлітасныя рукі звалілі велізарны купал, расшматкавалі металічны дах. І ў рэшце рэшт цудоўны помнік дойлідства стаў мураваным хлевам з гонтавым дахам.**

**Праўда, у пасляваенны перыяд у знявечанай царкве зноў аднавілася богаслужэнне. Але ж некаму вельмі не падабалася, што ў перыяд «разгорнутага будаўніцтва камунізму» ў самым цэнтры Капыля ўзвышаецца крыж, што ў дні рэлігійных святаў цвінтар запаўняецца вялікай колькасцю веруючых. А калі свяшчэннік Чарнушын наважыўся яшчэ пабяліць фасад, мясцовае насельніцтва, нібыта па просьбе грамадскасці, зламала замок, канфіскавала залатую чашу з лыжачкай, іншую культавую маёмасць вывезлі на грузавіках і кучай звалілі ў будынку помніка драўлянай архітэктуры ў вёсцы Цімкавічы. Гэты будынак, пабудаваны трыста гадоў назад, на жаль, не ўратаваўся. Ці то знячэўку, ці то наўмысна яго дашчэнту знішчыла нядаўна полымя пажару.**

**Будынак *капыльскай царквы* на многія гады ператварыўся ў майстэрню, дзе выраблялі дамавіны, надмагільныя помнікі і металічныя агароджы. Пабудаваны на многія стагоддзі, але, застаўшыся без даху, ён пачаў разбурацца. Урэшце, было вырашана абсталяваць тут раённы краязнаўчы музей. Знайшліся для гэтага і грошы, будаўнічыя матэрыялы, будаўнікі-рэстаўратары. Калі вонкавыя работы былі ў асноўным скончаны, а будынак увянчаўся купалам, у вышэйшыя раённыя інстанцыі пасыпаліся просьбы насельніцтва — вярнуць будынак веруючым. Да гэтых просьбаў далучылі свой голас і некалькі працоўных калектываў горада. Вясной гэтага года выканком раённага Савета сваім рашэннем задаволіў просьбы капылян. Падтрымаў патрабаванне мясцовых веруючых і беларускі экзархат.**

**Сёлета адбылося ўрачыстае асвячэнне Капыльскай Спаса-Вазнясенскай царквы. У ім прынялі ўдзел мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, экзарх Беларусі, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Філарэт, благачынны Мінскай вобласці протаіерэй Міхаіл Булгакаў, сакратар Мінскай епархіі протаіерэй Іаан Харашэвіч, благачынны Слуцкага раёна протаіерэй Міхаіл Вейга, іераманах Варсанофій з Францыі, малы хор Мінскага кафедральнага сабора.**



Асвячэнне капыльскай царквы з удзелам экзарха Беларусі Філарэта.

**Мітрапаліт Філарэт у сваёй пропаведзі шчыра павіншаваў веруючых і выказаў надзею, што гэты паранены, шматпакутлівы храм зноў набудзе светлае і яркае аблічча.**

**Сапраўды, патрэбны вялікія сродкі для заканчэння рэстаўрацыі, не кажучы пра набыццё неабходнага культавага ўбрання. Сціплыя ахвяраванні прыхаджан — кропля ў моры. Таму настаяцель царквы айцец Алег звярнуўся з просьбай да грамадзян рэспублікі ўнесці пасільны ўклад у адраджэнне гістарычнага помніка. Грашовыя сродкі можна пераводзіць на рахунак 701603 Капыльскага аграпрамбанка.**

**У. ГУРЫНОВІЧ,**
**супрацоўнік капыльскай раённай газеты «Слава працы».**

# Калі б прэмію прысуджаў я...




**У мінулым нумары на пытанне «ЛіМа»—калі б лёс прэмій залежаў ад вас, то якім бы быў ваш выбар!—адказалі Т. Грамадчанка, У. Казбярук, М. Тычына, У. Дубавец. Сёння мы працягваем гаворку пра літаратурныя творы, вылучаныя на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР за 1990 г.**

## Люба ТАРАСЮК: «АДДАЮ ПАВАГУ ЎСІМ...»

Аддаю сваю павагу ўсім шаноўным прэтэндэнтам. Усведамляю таксама, што не можа быць саперніцтва жанраў, а таму не параўнаеш кожную кнігу з кожнай. Але адну з іх як самую бясспрэчную для мяне ў вызначэнні лідэрства назваць магу: «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае» Алега Лойкі.

Вядома ж, яе з'яўленне зараз невыпадковае, як невыпадкова супала новая хваля нацыянальнага адраджэння і 500-годдзе пачынальніка беларускага Адраджэння Ф. Скарыны. Раман-эсэ А. Лойкі, напісаны, здавалася б, менавіта на патрэбу часу,— гэта плён нашага агульнага, такога цяжкага і зацяжнога вяртання да сябе, пошукаў духоўнага апірышча, збірання самога народа — з тых раз'яднаных, абрабаваных у самым сутнасным, знявечаных часцінак аднаго цэлага, якімі мы былі.

Скарына пакінуў нам найзмястоўнейшыя сімвалы духоўнага адраджэння — Кнігу і Сад, сімвалы духоўнай сілы, жыццядайнасці і прыгажосці. З такім набыткам ніводнаму народу не сорамна ў чалавецтве, але сорамна не быць народам.

Раман-эсэ А. Лойкі здзяйсняе важны крок насустрач нашаму спасціжэнню Скарыны. У літаратурнай Скарыніяне Беларусі гэты твор вылучаецца спелым гістарызмам, маштабным увасабленнем эпохі і трагізмам самой постаці вялікага асветніка і гуманіста. Гэта раман-даследаванне, пранікненне ў складаны сацыяльна-філасофскі кантэкст Сярэднявечча і аналіз драматычнага ўзыходжання Скарыны да гуманістычных, нацыянальна-патрыятычных ідэй Адраджэння. Як удумлівы даследчык, вучоны шырокай гуманітарнай арыентацыі, А. Лойка спрабуе паказаць эпоху Скарыны ў яе сутнасных вымярэннях, у драматычных канфліктах старога і новага, артадаксальнага і вальнадумнага, Усходу і Захаду. Пры гэтым ён пазбягае легкаважнасці ў адносінах да гіпатэтычных старонак жыццядзейнасці свайго героя: працаваў Скарына ў Дакіі ці ў Даніі, сустракаўся з М. Лютарам ці не, — добра ўсведамляючы, што далейшыя адкрыцці скарыназнаўства, якія дадуць канчатковы адказ на некаторыя пытанні нашага часу, могуць паставіць пад сумненне цэласную мастацкую канцэпцыю рамана (так ужо не раз было ў гісторыі літаратурнай Скарыніяны).

Разам з тым аўтар не фактаграфіст, ён дае волю мастацкаму ўяўленню, ён проста раскашуе ў сваім сярэднявеччы, малюючы яго вельмі каларытна і асязальна. Па Полацку і Вільні, Кракаву і Празе ён ходзіць як свой, бачыць іх вачыма тагачаснага гараджаніна, чуе іх жывыя галасы.

А галоўнае — ён бачыць і мысліць духоўным зрокам і розумам Францішка Скарыны. Пульсацыя думкі Скарыны, яго тэмперамент, радасны ўзлёт ці адчай безвыходнасці перададзены экспрэсіўна і дакладна. А дакладна таму, што аўтар умее чытаць дакумент — даўно, здавалася б, вядомы, але вось ён ператвараецца на нашых вачах у мастацкую карціну...

Раман А. Лойкі пра Скарыну — гэта раман інтэлектуальны. Ён патрабуе ад чытача не толькі даверу і суперажывання, але і шчаслівай мысліцельнай працы. У ім безліч складаных аналогій, прарывы ў філасофію антычнасці, у інтэлектуальна-вобразны свет Біблії, спасціжэнне самога ладу жыцця сярэднявечча універсітэцкага. На старонках рамана нязмушана гучыць і старабеларускае слова, і польскае, і чаканная лаціна. Заслугоўвае ўхвалы ўжо адно толькі тое, што сучасны чытач адкрые для сябе ў жывым моўным кантэксце афарыстычную вобразнасць лацінскай мовы, якую мусіў ведаць не толькі доктар філасофіі і медыцыны Францішак Скарына, але і кожны сярэдневяковы шкаляр. А больш дасведчанаму ў нацыянальнай культуры чалавеку адкрыецца раптам, як вобразнасць багдановічаўскага верша «Безнадзейнасць» пераліваецца ў карціны смерці Маргарыты.

Раман А. Лойкі складаны і наватарскі і ў моўна-стылявых адносінах, і ў кампазіцыйных. З цікавасцю чытаюцца нават назвы раздзелаў кнігі, вытрыманыя ў ключы старажытнага красамоўства, традыцый скарынаўскага пісьма і пазнейшых стылізацый пад старажытнасць у празаічных творах М. Багдановіча. Але прысвячэнне кнігі я працытую: «УСІМ МАЦІ /кругу светлага паднябеснага, /імёны якіх сёння/ людзям невядомы, /ды іменамі сыноў якіх/ зямлі розных куткоў /кругу паднябеснага/ славіцца не перастануць».

Дадам яшчэ, што наша адраджэнне магчыма, калі мудрасць і веліч Скарыны паселіцца ў кожным сэрцы.

## Васіль ЖУРАЎЛЁЎ: «ТУТ ЁСЦЬ ЧАМУ ПАВУЧЫЦЦА...»

Здавён чалавека хвалявала, трывожыла (і працягвае хваляваць і трывожыць) думка пра сваё месца ў свеце. У кожнага тут, вядома, свой погляд, сваё, індывідуальнае разуменне гэтай проста-складанай жыццёвай і філасофскай праблемы. Яна не можа нейкай гранню не закрануць душу чалавека. Менавіта такая думка, як мне здаецца, з'яўляецца стрыжнявым арганізацыйным цэнтрам публіцыстычнай кнігі В. Карамазава «Проста ўспомніў я цябе», хоць ставяцца тут самыя разнастайныя пытанні — экалагічныя, маральныя, сацыяльныя і інш. «Шукаючы першы гук,— заўважае аўтар у нарысе «Глядзіце ў вочы лемуру»,— мы шукаем сябе ў свеце і ў сабе — саборнае рэха свету, у якім жывем, з якім павязаны безліччу рэалій і таямніц».

Аўтару кнігі «Проста ўспомніў я цябе...» шчасціць на сустрэчы з цікавымі і духоўна багатымі людзьмі. Паводле слоў пісьменніка, іменна дзякуючы такім людзям мы можам зазірнуць праз тысячагоддзі ў сваю гістарычную мінуўшчыну і глянуць далёка наперад, паўней зразумець хуткаплынную, пераменлівую ў сваіх інтарэсах сучаснасць і глыбей асэнсаваць складаны і шмат у чым таемны закон раўнавагі, які, нягледзячы ні на што, «дае магчымасць выжыць сумленню і праўдзе».

Вядома, у наш няпросты час пакутлівага складвання новых форм жыцця мае сваю каштоўнасць усякае сумленнае слова. Аднак не будзе памылкай сказаць, што сумленнае, смелае і прынцыповае слова ў шмат разоў памнажае сваю вагу і свой пазнавальна-выхаваўчы патэнцыял, калі яно ў дадатак да гэтага валодае яшчэ і мастацкай сілай.

У гэтай сувязі В. Карамазаў невыпадкова запыняе глыбокую і добразычлівую ўвагу на жыццёвым і творчым лёсе выдатных майстроў слова, сваіх сучаснікаў і папярэднікаў — І. Мележа, А. Пысіна, У. Караткевіча, А. Кудраўца, М. Гарэцкага, М. Стральцова, П. Багрыма, М. Багдановіча, М. Шолахава, Т. Шаўчэнкі, Л. Ляонава... Імкнучыся заглыбіцца і нанова перачытаць у кантэксце новых патрабаванняў часу іх лепшыя творы, аўтар прыходзіць да вываду, што сумленнасць, маральная чысціня — найважнейшыя прыкметы таленту, што неаднойчы вялі мастака на бой са злом, з догмамі і стэрэатыпамі мыслення.

Такой выключна сціплай, адкрытай і чыстай была, у прыватнасці, душа А. Пысіна, якому нярэдка і ў мірны час даводзілася добраахвотна выходзіць «на вогненныя скрыжаванні». В. Карамазаву іншы раз здаецца нават крыху дзіўным і загадкавым: якім чынам такая незвычайная сціпласць ягонага сябра «магла акумуліраваць незвычайную энергію ў слове, руху, жыцці?»

Ставячы такія пытанні і пабуджаючы чытача да аналітычнага мыслення, В. Карамазаў шукае адказ на іх і сам. Логіка яго разваг звычайна падмацавана тонкай назіральнасцю, навізною і свежасцю паваротаў думкі, жывасцю аргументацыі. Мне падалося нават, што тут ёсць чаму павучыцца і прафесійнаму даследчыку літаратуры. У нашых працах досыць часта яшчэ эмацыянальнае і рацыянальнае не знаходзяць гарманічнага і дружалюбнага паміж сабой кантакту. А гэта азначае, што і саму праўду пра мастацкі твор і яго аўтара мы падчас істотна звужаем.

Важным, можна сказаць праблематычным пытаннем для В. Карамазава з'яўляецца асэнсаванне прычын і стымулаў, якія ўзнімаюць мастацкі талент на вяршыню такой мастацкасці, якая ўвасабляе ў сабе агульначалавечы пафас і гуманістычны позірк на свет і чалавека.

Аргументацыі некаторых крытыкаў іншы раз зводзяцца да таго, што нібыта дастаткова пісьменніку авалодаць літаратурнай тэхнікай, паглыбіць кантакт з класічнай літаратурнай традыцыяй, зашыфраваць або да непазнавальнасці міфалагізаваць рэальную плынь жыцця — і мастацкі поспех табе забяспечаны.

Аўтар не адмаўляе важнай, уплывовай ролі на станаўленне і фарміраванне пісьменніцкай асобы ўсіх гэтых фактараў. Але найгалоўнейшае значэнне, як лічыць ён, адыгрывае тут усё-такі нацыянальны фактар, паяднаны, вядома, з агульначалавечымі духоўнымі каштоўнасцямі, з «саборным рэхам свету». І тады гэта жыватворная сіла здольна збіраць, факусіраваць і пераўтвараць усе лепшыя памкненні таленту ў энергію высокамастацкага слова.

В. Карамазаў скіроўвае нас да вываду, што сапраўды мастацкае слова можа высекчы са свайго сэрца той, «хто не толькі начытаўся кніжнае мудрасці», але і сам арганічна зліўся са сваім родным кутам — з матчынаю моваю, народнаю песняю, народным жыццём, «з рэчкаю, дрэвам, зверам, птушкаю»...

Канешне, не з усім тут хочацца толькі пагаджацца. Сустракаюцца ў кнізе палажэнні і меркаванні ў чымсьці спрэчныя ці недастаткова разгорнутыя. Ну, хоць бы вось такое. У артыкуле-роздуме пра М. Гарэцкага «Чалавек і ўвесь народ» аўтар з жалем адзначае, што «нашаму эпасу ў прозе заўсёды не шанцавала. Мы выдатна пачыналі, мужна выпраўляліся на грозную Джамалунгму літаратуры і не ўзыходзілі на яе: Чорны, Гарэцкі, Мележ»...

Думаецца, што сказана не зусім дакладна і занадта катэгарычна. Будзем сціплымі, але не будзем і прыбядняцца.

Можна было б крытычна глянуць тут і на некаторыя іншыя моманты кнігі. Але падумалася, што ўсё гэта пераважна прыватныя заўвагі. А ўвогуле кніга В. Карамазава «Проста ўспомніў я цябе...» заслугоўвае таго, каб быць адзначанай і чытацкай увагай, і высокай дзяржаўнай ацэнкай.

## Маргарыта ЯФІМАВА: «ГАЛАСУЮ ЗА ТРЫЛОГІЮ...»

Праблема выбару заўсёды складаная. Усё ж, паколькі мне прапанавана зрабіць такі выбар, дык карыстаюся гэтай прапановай і без ваганняў галасую за трылогію Васіля Віткі. Яе склалі кнігі «Дзеці і мы» (1977), «Урокі» (1982), «Азбука душы» (1988). Гэта кнігі мудрыя, арыгінальныя, наватарскія, да іх аўтар ішоў праз доўгія гады. Гэтаксама, як і ў паэзіі, у публіцыстычных кнігах В. Віткі няма разліку на знешні эфект, знарочыстай палітызацыі, параднага аптымізму, кан'юнктуры. Трылогія — шчырая і даверлівая споведзь, якая ўвабрала трывогі і неспакой аўтара, яго роздумы і плён педагагічных шуканняў.

У наш супярэчлівы час, калі прыкметна прагрэсіруюць жорсткасць, бяздушша, бязвер'е, страта маральных крытэрыяў, кнігі Васіля Віткі асабліва ўражваюць высокай духоўнасцю і чалавечнасцю.

Трылогія ўключае творы розных жанраў: нарысы, выступленні, літаратурныя партрэты, літаратурна - крытычныя арты-

# НІВА НАШАГА ПАТРЫЯТЫЗМУ

(Пачатак на стар. 5).

716, а этнаграфічных, напрыклад, толькі 9, музеяў гістарычна-краязнаўчых — 199. Ёсць і такія музеі ў Беларусі, як музей Крупскай (СШ № 16, г. Баранавічы). І яны не перабудаваліся і не могуць «перабудавацца», бо ідуць услед за развіццём гістарычнай навукі. А паколькі гістарычная навука ўсё яшчэ існуе пад прыгнётам інерцыі, то і ў музеях перамен няма. Людзі тут пачынаюць разумець, што так нельга працаваць, трэба кардынальна мяняць усю работу, але не маюць ні методык, ні тэорыі, якіх дагэтуль не выпрацавала навука. Хто дасць ім накірунак? Яго павінны даць галаўныя музеі Беларусі, вучоныя і, разумеецца, таварыства. Я маю на ўвазе дзяржаўныя музеі, якія знаходзяцца ў падпарадкаванні Міністэрства культуры. Сюды ўмешвацца таварыству не надта тактоўна. Наша ніва — музеі грамадскія, якіх у нас каля паўтысячы. Так што наперадзе вялікая работа.

Далей, я лічу, што краязнаўчае таварыства павінна працаваць у цесным супольніцтве з іншымі арганізацыямі: міністэрствамі культуры і адукацыі, Таварыствам беларускай мовы, Беларускім экалагічным саюзам, таварыствамі аховы прыроды і аховы помнікаў, з нефармальнымі структурамі, накшталт Беларускага народнага фронту. Агульных інтарэсаў у нас мноства: ад вяртання нацыянальнай тапанімікі і вывучэння гістарычнай спадчыны да экалагічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Так што трэба толькі працаваць.

Вельмі важна наладзіць і пашырыць выпуск краязнаўчай літаратуры, якая б адышла, нарэшце, ад старых схемаў. Я, напрыклад, сам быў удзельнікам такой сітуацыі, калі вартасць кнігі ацэньвалася вельмі арыгінальным спосабам: рэдактар, не чытаючы, падзяліў кнігу на дзве часткі — дакастрычніцкі перыяд і савецкі. Адну частку паклаў на правую руку, другую — на левую. І сказаў: «Калі ў цябе савецкі перыяд будзе ў два разы цяжэйшы за дакастрычніцкі — прынось сваю кніжку». Так у нас і выпускаліся дзесяткі і сотні кніг. Таму я лічу адной з найгалоўнейшых задач — выправіць гэткую ненармальную сітуацыю, калі сённяшні дзень пачынае пераважаць усю гісторыю.

Трэба таксама наладзіць выпуск такой друкаванай прадукцыі, як буклеты, паштоўкі з выявамі самых розных мясцін, значкі, табель-календары з памятнымі краязнаўчымі датамі, фотаальбомы, прысвечаныя цэлым рэгіёнам Беларусі. Без сваёй фабрычкі па выпуску гэткай прадукцыі нам не абысціся.

У нашых планах — серыя брашур пра гістарычныя помнікі Беларусі, серыя краязнаўчых прац — нашай спадчыны і г. д.

кулы, успаміны, дыялогі, замалёўкі і інш. Усе тры кнігі ўзаемазвязаны, дапаўняюць адна другую і разам складаюць цэласны цыкл. Гэтаму не замінае тое, што напісаны яны ў розны час. Калі чытаеш кнігу «Дзеці і мы», забываешся, што яна выйшла з друку яшчэ ў 1977 годзе. Таму што новую сілу і актуальнасць набылі сёння думкі пра неабходнасць берагчы прыроду і «эмацыянальную атмасферу, у якой мы жывём», пра спрадвечныя законы сапраўднага мастацтва, пра ролю народнага слова, песні, душэўна чулыя адносіны да дзяцей. Глыбока кранаюць разважанні пісьменніка пра ролю маці, пра сям'ю, «душэўных сірот — дзяцей, пачуцці якіх знявераны бацькамі, сямейнымі драмамі і канфліктамі», пра школы-інтэрнаты, пра ўцёкі дзяцей з роднага дому... «Столькі разрадаў маланкі праходзіць праз маленькае сэрца — дзіву даешся запасам яго трываласці». Тут ёсць над чым задумацца.

Шмат увагі ўдзяляецца школе, асабліва пачатковым класам, дзе найбольш складаная методыка, якая павінна ўлічыць адну з характэрных асаблівасцей малодшых школьнікаў — іх павышаную эмацыянальную чуйнасць. «Жывая памяць дзяцей — не вылічальная машына»,— папярэджвае аўтар.

Адметнасць дзіцячага ўспрымання, тое, што «дзеці прагнуць вучыцца з захапленнем, з радасцю» В. Вітка ўлічыў у распрацоўцы ўрокаў па роднай мове і матэматыцы, якія ён правёў у школе. Кароткія канспекты гэтых урокаў уключаны ў раздзел «Урокі» аднайменнай кнігі. Назва, як сцвярджае сам аўтар, абумоўлена не столькі тымі ўрокамі, якія ён даў у школе, а найперш — урокамі, што далі яму жыццё і людзі, — «самыя мае дарагія настаўнікі». Гэта К. Чорны, М. Лынькоў, У. Дубоўка, І. Мележ, М. Танк і інш.

В. Вітка вядзе чытачоў у творчую лабараторыю сваіх настаўнікаў, адкрывае сакрэты ўласнай, расказвае пра свае літаратурныя пошукі, эксперыменты, планы, дапамагае больш дакладна ўявіць асновы пісьменніцкага майстэрства. «Пакуль мы не ўбачылі, не зразумелі чалавека як цікавы аб'ект для роздуму, для асэнсавання, для мастацкага даследавання, ніякія прылады яго працы, самая эфектная апаратура і тэхніка не толькі не дапамогуць скласці аб ім уражання, а, наадварот,— могуць збіць з панталыку»,— піша Васіль Вітка ў кнізе «Азбука душы». У ёй у параўнанні з папярэднімі прыкметна ўзмацніўся грамадзянскі пафас і палемічны напал голасу мастака, наступальнасць яго публіцыстыкі як супрацьдзеянне псеўдакультуры, халтуры пошласці, збядненню духоўнай сферы чалавека. Мацнеюць іранічныя, саркастычныя інтанацыі. Яны чуюцца асабліва там, дзе аўтар высмейвае «графік руху не толькі збліжэння, але і поўнага зліцця ўсіх культур у адну», няўдалае «сціранне граняў паміж горадам і вёскай», пра «росквіт» у апошнія гады спекуляцыі, злачыннасці, мізэрны духоўны набытак многіх важных саноўнікаў, для якіх страта высокай пасады — крах, «без пасады, без улады такі саноўнік раптам становіцца голы як андэрсанаўскі кароль»...

Аднак вызначальны настрой публіцыстычных кніг В. Віткі, і ў прыватнасці, самай вострай і трывожнай — «Азбука душы» — надзея. Пісьменнік-гуманіст асвятляе душу чытачоў промнем прыгажосці, якую так часта мы не заўважаем. А яна, гэтая прыгажосць, незвычайны стан душы — у зліцці чалавека з праніклёнай народнай песняй, музыкай, прыродай, у справах на карысць людзям. Слова і музыка зліты ва ўспрыманні В. Віткі, і гэта выяўляецца ў яго нататках пра паэзію С. Грахоўскага, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, А. Разанава, А. Вольскага, С. Басуматравай і інш. «Як бы ні мяняліся, ні ўдасканальваліся формы, яна, паэзія, застаецца паэзіяй». Хіба ж можна не пагадзіцца з гэтым?

Становішча вывучэння роднай мовы ў школе — адна з галоўных праблем і ў кнізе «Азбука душы». Справядліва крытыкуюцца бездапаможныя і прымітыўныя падручнікі, якія здольны толькі адбіць у вучняў цікавасць да роднай мовы. У сваіх педагагічных роздумах і метадычных пошуках В. Вітка звяртаецца да вопыту Ушынскага, Макаранкі, Сухамлінскага, Шаталава, але не ўсё ім прымаецца на веру, ёсць у трылогіі крытычныя заўвагі, абгрунтаваныя пярэчанні. Духам наватарства, пошуку адзначаны педагагічны роздум В. Віткі, які па сутнасці стварыў арыгінальную педагагічную канцэпцыю адраджэння беларускай нацыянальнай школы.

Нельга сказаць, што трылогія не заўважана — аб ёй сказаны прыхільныя словы ў друку. Тым не менш, ні значэння яе, ні заслуг яе аўтара мы яшчэ не асэнсавалі належным чынам.

### Пятро ВАСЮЧЭНКА:

### «ГЭТА Ж ГУЛЬНЯ Ў ГУЛЬНІ...»

Калі б я вырашаў лёс прэмій, то найперш зрабіў бы круглыя вочы і гучна падзівіўся б:

— А што, і Разанаў у спісе кандыдатаў? Хіба ён яшчэ не лаўрэат?

Тут мне, напэўна, хто-небудзь растлумачыў бы, чым ёсць **дзяржаўная** прэмія: сімвалам афіцыйнага, **дзяржаўнага** прызнання паэта. Пасля чаго мне прымроіцца брама, праз якую праходзяць таленты, каб аформіцца ў лаўрэаты. Але ж далёка не кожны праходзіць, нават сапраўдны талент. Адзін скрозь у калючках, у вострых вуглах — гэты абавязкова зачэпіцца й не пройдзе. А вунь таго, другога, не пускай — усё адно пройдзе. Як Грыша з фільма «Сем старых і адна дзяўчына» — скрозь сцяну. Трэці, ганарлівы, сам не падыдзе да той брамы. А чацвёрты — ён сціплы, ён убачыць, што непярэліўкі, то пастаіць і пасунецца назад, у паэзію.

А разанаўская паэзія — яна ж як заблытаны лабірынт, ключ ад якога аўтар доўга насіў у кішэні, а пасля надакучыла, узяў ды закінуў некуды ў сажалку. Дзіва што паэзія гэтая, без ключа, доўгі час не праходзіла ў браму дзяржаўнасці.

Гэта не ў крыўду тым, хто ў спісе.— К. Цвірку, Г. Кісялёву, А. Лойку, В. Вітку, іншым... Добрыя пісьменнікі, паважаныя людзі, прыстойныя кнігі.

Мяне, прыкладам, усцешыла тое, што на прэмію імя Я. Коласа прэтэндуюць амаль навуковыя творы — «Шукаецца класік» і «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» Г. Кісялёва. Ёсць паэзія літаратуразнаўства, ёсць эстэтыка архіўнага пошуку, параўнанне тэкстаў, сістэматызацыі фактаў, абжыванне мінулай літаратурнай эпохі. Здаецца, гэтае мастацтва ацэнена і пастаўлена нароўні з белетрыстыкай.

Што ж датычыцца апошняй, дык і яна прадстаўлена ў спісе не самымі горшымі творамі. «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака» Л. Дайнекі — някепская белетрызацыя гісторыі, патрэбныя кнігі. «Грот Афаліны», «Эрпіды на планеце Зямля» П. Місько — хоць нешта пры амаль поўнай адсутнасці беларускай фантастыкі. Дарэчы, можа ёсць сэнс прызначыць прэмію імя У. Караткевіча — за лепшыя творы ў гістарычным, прыгодніцкім, фантастычным жанры? Разумею, што гэта не спосаб разварушыць пакуль што кволы жанр, але...

Дзеля справядлівасці скажу і тое, што не папсавалі б спісу кандыдатаў і Л. Галубовіч з паэтычным зборнікам «Споведзь бяссоннай душы», і Э. Ялугін з кнігай «Без эпітафіі», і сёй-той іншы... Але якраз гэтая магчымасць раўназначных заменаў у спісе наводзіць на невясёлы роздум. Не толькі пра тое, што геніяльны твор — адзін на стагоддзе.

Я згодны пачакаць, пакуль *народзіцца «раман стагоддзя»*. Але гэтая амаль люстраная роўнядзь прозвішчаў, назваў... Дзе твор-з'ява, твор-сенсацыя, які — нібы скалістая выспа на роўнядзі проста добрых твораў? Калі ўжо не раман, дык хаця б п'еса, апавяданне, верш? Мне адкажуць: дык няма ж такога ў літаратуры. А я зноў папытаюся: а што, каб з'явіўся, дык адразу й присудзілі б прэмію?

Адказу няма. А прычына вось у чым.

Літаратура рушыць сваім шляхам, прысуджэнне прэмій сваім. І апошні шлях — таксама загадка. У ім не меней ірэальнасці, чымсьці ў «Працэсе» Франца Кафкі. Адзін вобраз гэтай загадкі — брама (чытай вышэй), другі — чарга. Раней, чым трапіць у браму, мусіш папастаяць, а як не захочаш, дык цябе адапхнуць, кажучы: «Малады яшчэ». І прапусцяць таго, хто адстаяў. Але ж паэты не любяць доўгіх чэргаў, сёй-той і не дачакаецца... Не дачакаліся б М. Багдановіч, А. Гарун, У. Жылка... Уявіце сабе, як Максіму-кніжніку кажуць: «Адыдзі, стань у чаргу».

Можа, я што-небудзь спрашчаю? То выбачайце, я ж не член паважанага камітэта, які размяркоўвае прэміі.

А калі б я быў у ім, дык выказаў бы тое, пра што тут пішу. Але, пабурчэўшы, згадаў бы на тое, што літаратура не вельмі любіць бурклівых. Бо яна ўсё ж — гульня, хай сабе і інтэлектуальная. Прысуджэнне прэмій — гульня ў гульні. У яе гуляюць нават паважныя людзі — шведскія акадэмікі, прыкладам.

А ў гульні павінны быць пераможцы. І калі мяне запрашаюць вызначыць іх, дык — калі ласка: А. Разанаў, Г. Кісялёў, В. Карамазаў, Л. Дайнека. Пры вялікай павазе да астатніх.

---

І адна з важнейшых задач — адрадзіць часопіс «Наш край». Вось зараз, пасля таго, як будзе зарэгістравана таварыства (а на гэта ўжо ёсць надзея, інструкцыю 1932 года, па якой нас не рэгістравалі, адмянілі), адразу паўстане пытанне пра часопіс. Ён павінен стаць масавым выданнем, каб даходзіў да ўсіх, трапляў у кожны горад, мястэчка, кожную вёску...

**— Генадзь Аляксандравіч, а як у вас складваюцца ўзаемаадносіны з міністэрствам адукацыі? Мне здаецца, краязнаўства і школа — рэчы непарыўныя, дзеці найперш павінны займацца вывучэннем роднага краю...**

— У мяне была гутарка з намеснікам міністра народнай адукацыі таварышам Бутрымам, нас запрашалі і на настаўніцкія канферэнцыі, ды і ўвогуле мы неаднаразова сустракаемся і супрацоўнічаем з настаўнікамі. І мне здаецца, што ў нашым новым міністэрстве разумеюць, што краязнаўства павінна быць у школе, асабліва ў вясковай. І я спадзяюся, што тут у нас праблем не будзе: у кожнай школе з'явяцца краязнаўчыя калі не музеі, то хоць куткі ці гурткі.

**— А на заканчэнне, Генадзь Аляксандравіч, хачу яшчэ раз спытаць пра тое, з чаго пачынаў. Чаму вас не заўважаюць? Чаму вас ігнаруюць? Чаму Беларускае краязнаўчае таварыства ледзь не падпольная арганізацыя. Чаму яно зрэдку ўпамінаецца ў рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі? Усё-такі, у чым тут справа?**

— Сапраўды, хоць БКТ ні на што не прэтэндуе, хоць яно і з'яўляецца вельмі памяркоўнай, абсалютна не палітычнай арганізацыяй, якая займаецца вывучэннем родных мясцін, прапагандай іх, збірае матэрыялы, ці, інакш кажучы, займаецца самай што ні ёсць патрыятычнай працай, — нягледзячы на ўсё гэта, таварыства сустрэта, ды і зараз успрымаецца насцярожана. Да нас зараз прыкладна такія ж адносіны, як і да БНФ. Але што зробіш? Такі ўжо лёс нашага краю: усё патрыятычнае зараз жа аб'яўляецца нацыяналістычным. Патрыятызм для беларуса чыноўнікі непарыўна звязваюць з палітыкай. Мы гэта добра разумеем, тым не менш, будзем і далей працаваць на ніве нашага патрыятызму.

**Гутарыў Максім ГІЛЕВІЧ,**
**студэнт БДУ.**

---

# З кнігі нашай гісторыі

### «СПАДЧЫНА» № 3

**Яшчэ не паспела паслабнуць уражанне ад знаёмства з прозай Язэпа Лёсіка, змешчанай у восьмым нумары часопіса «Беларусь», як ён зноў звяртаецца да нас з небыцця, праз напластаванні гадоў падае свой голас у абарону беларускасці, Адраджэння, нацыянальнага суверэнітэту — «Спадчына» ў чарговым, трэцім за сёлетні год, нумары надрукавала артыкул Я. Лёсіка «Аўтаномія Беларусі» з пасляслоўем Алеся Жынкіна «Беларусь... Якой табе быць?». Аўтар пасляслоўя дасведчаны (дарэчы, ён заўважыў некаторыя недакладнасці ў публікацыі «Беларусі» біяграфіі Я. Лёсіка, якія адтуль перайшлі і ў рэцэнзію А. Марціновіча «З віхуры «кручаных дзён», апублікаваную 21 верасня 1990 года ў «ЛіМе»), ён прыгадвае асобныя факты з жыцця вядомага палітычнага і грамадскага дзеяча, згадвае і лёс самога артыкула.**

**«Аўтаномія Беларусі» пісалася Я. Лёсікам у верасні 1917 года, а праз месяц артыкул выйшаў асобнай брашурай (аператыўнасць, якой сёння застаецца толькі пазайздросціць). На яе ў першыя гады Савецкай улады звярнулі ўвагу «пільныя» чэкісты. І. Апанскі 26 снежня 1922 года паведамляў тагачаснаму сакратару ЦК КП (б) А. Крыніцкаму: «Книга Лесика «Аўтаномія Беларусі» была запрещена к распространению как «шовинистического характера». Як іранічна зазначае А. Жынкін, «добрасумленна быў выкананы прысуд інквізіцыі — «Аўтаномію Беларусі» не знайсці нават у «спецхранах» буйных беларускіх бібліятэк».**

**Прайшло столькі часу, а ўслухайцеся — хіба не сёння напісаны вось гэтыя радкі: «Яшчэ ворагі беларушчыны кажуць: нашто будаваць беларускія школы, калі народ іх не хоча? Народ... Як жа народ запатрабуе сваіх беларускіх школ, калі ён іх ніколі не бачыў і нічагутка ў гэтай справе не цяміць? Дзіўная гэта звычка ў людзей — пасылацца на народ там, дзе яно зусім недарэчы... Народ добрая рэч, але яму трэба расказаць, растлумачыць, яго трэба спачатку асвяціць, навучыць, а ўжо потым клікаць да сябе на параду...».**

**Магчыма, атрымалася так спантанна, а, *можа*, і задума адпаведная была, але ў гэтым нумары «Спадчыны» сабраны шэраг матэрыялаў, якія абуджаюць у чытача пачуццё нацыянальнай свядомасці, прымушаюць па-новаму зірнуць на мінуўшчыну. Урэшце, зрабіць гэта дапамагаюць зноў жа перадрукі з іншых выданняў. Скажам, артыкул У. Пічэты «Чарговыя пытанні беларускай гістарыяграфіі». Яму папярэднічае слова Э. Іофе пра першага рэктара і прафесара Беларускага дзяржаўнага універсітэта, заснавальніка беларускай савецкай гістарычнай навукі («Заслужаны прафесар Беларусі»).**

**Сын рускага народа, У. Пічэта па-сапраўднаму папулярызаваў і прапагандаваў беларускую мову, дбаў *аб падрыхтоўцы вы*сокакваліфікаваных нацыянальных кадраў. Ён жа быў занепакоены, як відаць з гэтага артыкула, што «гісторыя Беларусі, як самастойны навуковы аб'ект, да гэтай пары амаль ніколі не была прадметам навуковай увагі ўсіх тых даследчыкаў, што закраналі гістарычныя лёсы тэрыторыі, на якой даводзілася жыць і дзейнічаць беларускаму народу. Гісторыя беларускай тэрыторыі разглядалася або як адна з састаўных частак Кіеўскай дзяржавы, або як дамінуючая частка ў складзе літоўска-беларускай дзяржавы, або як непадзельная частка Расійскай імперыі». Вучоны прыходзіў да высновы, што ёсць «лагічная падстава гаварыць і пісаць пра гісторыю беларускага народа як пра цалкам самастойнае індывідуальнае цэлае, якое мае самастойнае значэнне».**

**Артыкул У. Пічэты перадрукаваны з «Весніка Наркамасветы ССРБ» (выпуск 11—12 за кастрычнік-лістапад 1922 года). А вось артыкул Аўгена Калубовіча «Айцы» БССР і іхні лёс» (друкуецца пачатак з прадмовай К. Тарасава) упершыню пабачыў свет у эмігранцкай газеце «Час» за 1978 год). Кажучы словамі К. Тарасава, ён «мае тую цікавасць для нашага чытача, што адлюстроўвае погляды на пачатковы перыяд сацыялістычнага будаўніцтва з боку эмігранцкіх колаў».**

**«Разгарнуць кнігу ўласнай гісторыі» дапамагаюць і іншыя публікацыі нумара. Думаецца, прыхільнікі часопіса пазнаёмяцца з імі. Балазе, тыраж «Спадчыны» павялічваецца.**

**А. СІДАРЭНКА.**

---

# Неабходна практыкам

Мяне, як чалавека, які шмат гадоў звязаны з практычнай дзейнасцю ў галіне сцэнічнай харэаграфіі, цікавіць перш за ўсё прыкладное значэнне любой кнігі па танцы. Што яна дае, як яна можа быць выкарыстана ў творчай рабоце людзьмі, якія працуюць у галіне *прафесійнага* і *самадзейнага* мастацтва? Гэта тым больш важна, што дагэтуль усё ж вельмі мала выпушчана і выпускаецца літаратуры па харэаграфіі, асабліва беларускай. Такая кніга вельмі патрэбна, паколькі з прыходам новых пакаленняў неабходна аднаўляць асновы народнага танца, захоўваць і перадаваць традыцыі, якія могуць быць, як паказала практыка, страчаны ў нашу эпоху. Гэта немагчыма без ведання нацыянальнага фальклору, без захавання ў памяці яго багацця, а таксама лепшых твораў сцэнічнай харэаграфіі, створаных на народнай аснове.

Кніга Ю. Чурко «Беларускі харэаграфічны фальклор» у гэтых адносінах адпавядае самым надзённым патрэбам практыкі. У ёй фіксуюцца, канцэнтруюцца і даследуюцца з розных пунктаў гледжання народныя танцы, знойдзеныя за апошнія 10 гадоў аўтарам і супрацоўнікамі кіруемай ім навуковай лабараторыі ў шматлікіх экспедыцыях па рэспубліцы.

Нельга не адзначыць, што многія з гэтых танцаў былі раней невядомыя спецыялістам, прафесіяналам. Сярод іх многія арыгінальныя і патэнцыяльна нясуць у сабе падставы для *будучых сцэнічных пастановак*. Каб гэтыя карагоды, танцы былі апісаны раней, яны сталі б, магчыма, такімі ж знакамітымі, як «Лявоніха» і «Юрачка». І таму нельга не ацаніць тую дзейнасць, якая праводзіцца Ю. Чурко па зборы і захаванні танцавальнага фальклору. Фонды Галіновай лабараторыі танцавальнай творчасці пры Мінскім інстытуце культуры могуць з цягам часу стаць сапраўдным «банкам» беларускага танца.

Кніга «Беларускі харэаграфічны фальклор»— вынік велізарнай, шматгадовай працы аўтара, над ёй нямала папрацавала выдавецтва «Вышэйшая школа», *выпусціўшы* яе ў цудоўным мастацкім афармленні, на добрай паперы, з каляровымі ілюстрацыямі. Чаму ж такое, не пабаюся гэтага слова, унікальнае выданне выпушчана такім маленькім тыражом — 1500 экземпляраў? Кніга, якая павінна стаць настольнай для кожнага харэографа? Практычна мы ўжо як бы загадзя спланавалі выпуск бібліяграфічнай рэдкасці.

Некалі, яшчэ ў 20-х гадах, газета «Наш край», клапоцячыся пра збор і вывучэнне народнай творчасці, пісала: «На даўнейшыя беларускія танцы трэба зварачваць асаблівую ўвагу, бо большасць іх, на вялікі жаль, зусім ужо знікла, і трэба ратаваць тое, што засталося. Дзеля гэтага, калі хто знойдзе дзе стары танец і дакладна яго апіша, будзе мець вельмі вялікую заслугу ў беларускай народнай харэаграфіі». Думаю, што Ю. Чурко заслужыла добрае слова, бо дзякуючы ёй у памяці нашчадкаў застануцца ўзоры беларускай народнай танцавальнай культуры.

**В. ДУДКЕВІЧ,**
**галоўны балетмайстар Дзяржаўнага ансамбля танца БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.**

Аляксей РУСЕЦКІ



# ЗГАДКІ

## 1. А ці ж я...

А ці ж я з васільком у пятліцы,
з плугам, ношкай травы на калёсах
ехаў з поля між вербаў ніцых
і налітага зернем калосся?

Конь спацелы разумнаю мысай
упіраўся у браму ля хаты;
на стале — мне духмяная міса,
бохан хлеба наскрозь наздраваты.

Неўзабаве каню на начлезе —
лугавіна з мурогам смачным;
на замоўклым птушыным узлессі,
на траве — мне прытулак армячны.

Пагасла зары пазалота
і ў празрыстым змроку тым часам
ускружалася ўвыш над балотам
трапяткое бляянне бакаса.

Я сачыў за палётам высокім
у нябёсах спакойных, ціхіх,
углядаўся ў сінія зоркі,
патаемныя перамігі.

Дзіва дзіўнае... Ох аднойчы
з бляскам зоркавым сінім гэткім
з неба глянулі ў сэрца вочы
задавакі, белявай суседкі.

Скаланулі, ўстрывожылі нечым;
у няўцямнай тузе небарака
парываўся кудысьці бегчы,
па траве качаўся, плакаў...

## 2. З плугам і кнігай

Усё лета мы ўдвух з канём
на ратайнай варушымся працы;
я чытаў «Сам сабе аграном»
ля палетка, ў абед, на мураўцы.

Адкрываў мне часопіс сакрэт —
чым карысны падзолам шэрым
канюшыны малінавы цвет,
карані з дабрадзейных бактэрый.

Пра насенне чытаў на мяжы
і гатункі, пра генныя штукі
і плугі самаходных машын —
казкі тэхнікі, цуды навукі.

Аж хмялела ў мяне галава,
выхваляўся тады ў сельсавеце
і што ўведаў, як мог, друкаваў
рукапісна ў насценнай газеце.

Надта вяла радкі з-пад пяра
выпаўзалі на аркуш аршынны;
перад мною быў цень друкара,
уяўляўся мне клопат Скарыны.

Пазнаёміў на ворыве з ім
светлы ў думках, часам, пахмуры
наш апостал Гарэцкі Максім
праз «Гісторыю літаратуры».

Вёў мяне скрозь вякі ён, у глыб,
каб славутых учуў я паймення,—
іхні голас, пакутнікаў хрып
і паэзіі выбух праменны.

Крыгаломам яна веснавым
загула, зашумела, заззяла...
Думы сейбітаў, покліч жывы
мне пачуліся ў словах Купалы.

З залатых яго россыпаў-слоў,
як з зярнятаў на ўробленай ніве,
шмат у душах надзей прарасло
на багаты пагодлівы жнівень.

Канюшыны малінавы цвет,
водар збожжа, блакітнага лёну,
дух зямлі нашай — з гэтым у свет
выйшлі мы, нас мільёны, мільёны!

Думаў я: хіба зноў на паказ
несці нам сваю даўнюю крыўду?
Час настаў, каб вярнуць ў гэты час
славу, моц нашу, нават з нябыту!

## 3. Пахаванне ідэі

Марозны студзень, трыццаты год,
утрох — настаўнікі й сельсаветчык
ў арцель агітуюць калматы сход
у душнай школе каторы вечар.

Па хатах ходзяць настырна ўдзень,
усіх спакушаюць працай машыннай,
бядняк-актывіст хінецца ў арцель,
дзябёлыя ніца маўчаць мужчыны.

Але «ўпаўнаважаны» знекуль прыбыў
і «нехацімцу» зацятаму — крышка:
здавай і тое, што ёсць для сяўбы,
дзяржаве «па цвёрдым заданні»,
як «лішкі».

Жаночыя мольбы, слёзы, што боб...
рэвалюцыйна з наганам раўкаў;
уночы зніклі мельнік і поп —
эксплуататары — мелі парабкаў.

Вясной з «камунараў» прыйшлі трактары,
бы кнігу, перагарнулі аблогу,
і блазнам крычаў я: «Гаспадары,
машыны адкрылі нам шлях-дарогу!»

Нарэшце так-сяк зляпіўся калгас,
мы поле й межы ўзаралі коньмі,
шырока рунь усплыла, ў самы раз,
яшчэ такой не было ніколі.

А потым, як восень — жыта, авёс
грузі мяшкамі з вясёлым імпэтам
за возам — воз, чырвоны абоз —
наперадзе сцяг над вусатым партрэтам.



Васіль Хомчанка

# КАМЕНДАНТ

апавяданне

КАПІТАН Шыцікаў прыбыў на службу ў ваенны трыбунал на пасаду сакратара ў сорак шостым годзе. Калі я спытаў, кім ён служыў дагэтуль, адказаў — камендантам. Я і падумаў, што Шыцікаў быў недзе на службе ў ваеннай камендатуры, можа, памочнікам каменданта, а калі гарнізон невялікі, то і самім камендантам. Прызнаюся, што ў мяне да іх склаліся даволі адназначныя адносіны. Мяне заўсёды здзіўляла іх падабенства адзін на аднаго — усім ім былі ўласцівы салдафонства, нейкая незвычайная, гіпертрафіраваная стараннасць у барацьбе за дысцыпліну ў гарнізоне. Ці не таму кожны з іх, праслужыўшы працяглы час камендантам, выглядае на новай, іншай пасадзе даволі дзівотным.

У нашым гарнізоне, напрыклад, самым знакамітым з усіх былых камендантаў быў палкоўнік Шэмет — так назавём яго. У камендатуры ён, здаецца, дняваў і начаваў, і ў адпачынак не ездзіў, а праводзіў на службе. Патрулёў, якія рассылаліся ва ўсе канцы горада, ён інструктаваў асабіста і даваў кожнаму заданне затрымаць пэўную колькасць парушальнікаў дысцыпліны. І патрулі павінны былі старацца, бо невыкананне нормы палічылася б кепскай службай патрульных. Таму і затрымлівалі ваеннаслужачых за выпадкова не зашпілены гузік, за тое, што не так, як трэба, павіталі патрульных, і яшчэ за розную дробязь.

Над затрыманымі вяршыў суд сам Шэмет. Адным аб'яўляў некалькі сутак арышту на гаўптвахце, другім прызначаў страявыя заняткі на пляцы камендатуры, трэціх адпраўляў на гаспадарчыя работы — чысціць прыбіральню, падмятаць вуліцу, двор. Тых, каго караў страявымі заняткамі, выстройвалі на пляцы, і сам камендант палкоўнік Шэмет пачынаў ганяць затрыманых. Ах, якая гэта была для яго асалода! Колькі ён аддаваў сілы, энергіі сваім камандам, як ён бегаў з аднаго канца пляца на другі. Спачатку ганяў салдат і сяржантаў, потым афіцэраў. Каманды яго былі гучныя, аж чырванеў ад натугі, калі выкрыкваў:

— Раз! Раз! Нагу вышэй! Не чую стуку нагі! Раз! Раз! Кру-гом! А цяпер па адным міма мяне — марш!

Затрыманыя праходзілі міма яго, віталі, выцягваючыся ў струнку, грукаючы ботамі, а яму ўсё было не так, загадваў паўтарыць раз, другі, трэці... Стамляў людзей, стамляўся сам, затое ў канцы заняткаў так свяціўся ягоны шчаслівы твар, і з якім высокім адчуваннем добра зробленай справы ішоў ён у свой кабінет.

Калі Шэмет зволіўся з арміі, то яшчэ доўга прыходзіў у камендатуру і прасіў даць яму пазаймацца з затрыманымі. Яму давалі.

Прыгледзеўшыся нейкі час да капітана Шыцікава, я вырашыў, што і ён падобны на таго палкоўніка перш за ўсё казённа-кароткімі фразамі ў размове, асабліва ў службовай, сваёй насцярожанай маўклівасцю, нават суглобістасцю. Што ж, паспеў набыць уласцівыя ўсім камендантам прывычкі, падумаў я пра капітана.

Аднак, як выявілася, Шыцікаў быў камендантам не ў гарнізоннай камендатуры, а ў асобым аддзеле «Смерш» (смерць шпіёнам), як называлі сябе гэтыя аддзелы. Даведаўшыся пра гэта, я міжвольна стаў яго стараніцца, пазбягаць. Я ведаў, што ў абавязак работнікаў камендатуры «Смерша» ўваходзіла і выкананне смяротных прыгавораў. Непрыемна і неяк трывожна адчуваеш сябе побач з такім чалавекам — ка́там.

Як было запісана ў яго асабістай справе, Шыцікаў служыў да «Смерша» ў штабах палка, дывізіі. У аддзел «Смерш» трапіў выпадкова пасля ранення, з афіцэрскага рэзервовага палка. Начальства асобага аддзела чамусьці выбрала яго, Шыцікава. Ён пайшоў туды, добра не ўяўляючы, чым яму прыйдзецца там займацца.

Заўважылі мы ў новым сакратары не толькі насцярожаную адчужанасць, нас здзіўляла і яго проста-такі хваравітая няўважлівасць, заглыбленасць у сябе. Ён часта як бы ад усяго адключаўся. Раптам знерухомее, утаропіцца некуды ў адну кропку, вочы расшырацца, застынуць і нібы ашкляннеюць.

— Капітан, пра што думаеш?— абуджалі яго.

Ён уздрыгваў, азіраўся на нас здзіўлена і апускаў галаву.

Машыністка Оля знайшла сабе забаву, часценька разыгрываючы Шыцікава. Скажа яму, што яго прасілі пазваніць па тэлефоне, і называла нумар нашага тэлефона, Шыцікаў пачынаў набіраць свой жа нумар — гудкі, вядома, кароткія. Набіраў яшчэ раз, другі, трэці. «Увесь час занята»,— паціскаў ён недаўменна плячамі пад Оліна хіхіканне, пакуль я не вытрымліваў і не гаварыў, што ён набірае свой нумар.

Тая ж Оля мяняла нашы фуражкі, і Шыцікаў ніколі не заўважаў гэту падмену, надзяваў чужую фуражку.

І яшчэ рознымі прыдумкамі пацяшалася Оля з капітана Шыцікава.

Сапраўдную сутнасць чалавека можна пазнаць, падлавіўшы яго на дробязях. У звычайным ён можа прытварыцца, прыкінуцца не такім, якім ён ёсць. Дробязь і выдае яго нутро сапраўднае, пакажа ягоны характар. Раскрываўся на такіх дробязях і капітан Шыцікаў. Я зразумеў, што ўсе гэтыя ягоныя дзівоцтвы — вынік перажытых ім трагедый. А якія ў яго маглі быць трагедыі? Выкананыя ім смяротныя прыгаворы, вось што. Для нармальнага, звычайнага чалавека нават прысутнасць пры расстрэле — цяжкае псіхічнае ўзрушэнне. Такое відовішча б'е па псіхіцы непапраўна. А Шыцікаву, значыць, прыходзілася не толькі бачыць падобнае, але і самому расстрэльваць.

Да вайны Шыцікаў скончыў настаўніцкі інстытут і быў чалавекам пісьменным, добра ведаў арфаграфію, не блытаў склоны, пісаў дзе трэба «не» і «ні», рабіў правільныя пераносы. А вось перлы яго стылю вельмі часта былі прадметам нашых насмешак. Я дык і выпісаў некалькі перлаў з яго пратаколаў, якія ён вёў у судзе. Вось яны:

«Пры гэтым яны для звязкі слоў выказваліся нецэнзурна».

«Міліцыянер прапанаваў Акапяну ісці ў аддзяленне міліцыі. Акапян аблаяў міліцыянера, ударыў нагой у вобласць палавога члена, збіўшы з яго фуражку».

«Ён вылаяўся і паляпаў па сваім нецэнзурным месцы».

Гэтыя няўдалыя стылявыя выразы я адносіў да ягонай няўважлівасці, а не да непісьменнасці.

І быў ён часта нейкі затарможаны ў дзеянні, размове, часам простыя рэчы да яго даходзілі надзвычай доўга, а то і зусім не даходзілі.

Аднойчы да нас быў запрошаны прафесар юрыст. Лекцыя яго была цікавая, дасціпная, з рознымі павучальнымі юрыдычнымі казусамі. Прафесар прывёў такі выпадак. Жонка падала ў суд на мужа, што той у час сваркі адкусіў ёй мочку вуха. У судзе, памірыўшыся з мужам, жонка сказала, што мочку вуха адкусіла сама па неасцярожнасці. Усе мы зарагаталі, а Шыцікаў недаўменна азірнуўся на нас, паціснуў плячамі, ціхенька спытаў у мяне: «Чаго яны смяюцца?»

У рэшце рэшт я пачаў Шыцікава шкадаваць, зразумеўшы прычыну такога ягонага стану. Олі сказаў, каб прыцішыла свае з ім выбрыкі і насмешкі. Асабліва змяніліся ў мяне адносіны да Шыцікава пасля адной размовы са старшынёй трыбунала. Той сказаў: «Капітан пасля цяжкага рэактыўнага стану, у лёгкай дэпрэсіі. Думаю, што ён паступова ад яе паправіцца. Яго па гэтай прычыне і перавялі з асобага аддзела да нас».

— Ён расстрэльваў?

— І вешаў, — адказаў старшыня трыбунала.

Значыць, ён быў сапраўды катам, цяпер іх называюць выканаўцамі прыгавораў. Спіна халадзела, калі я ўяўляў сабе, як бы я прыстаўляў дула пісталета да патыліцы чалавека. Не дай Бог такога занятку.

Канкрэтна пра гэтыя заняткі я даведаўся ад самога Шыцікава.

У чалавека бываюць такія моманты, калі ён павінен перад кімсьці паспавядацца, расказаць аб тым, што баліць. Гэта як пасля вялікага гора трэба выплакацца. Паплача чалавек, пагалосіць, выльле слёзы, і лягчэй стане на душы. Дык вось і Шыцікаў, які са мной сышоўся бліжэй чым з іншымі, аднойчы і паспавядаўся.

Надыдзе вясна — дык што й калі
дыктуе сеяць з райкома чыноўнік;
гніло залатое зерне ў зямлі,
цвілі не адны пустазеллем гоні.

І лёг тады крыж дарог на калгас,
якімі ўцякала з бясхлебіцы моладзь
у Мінск, Маскву, Ленінград і ў Данбас—
куды каму падказала школа.

Затым — тут пустэльня з ваеннай пары,
дратуюць і душы й поле загады;
у плуг упрагаюцца гаспадары
агоранай неяк зямлянкі ці хаты.

*І ўсё, як раней: змалаці — здай,*
пытаўся панура: «Калі ж нарэшце
у пастанову пра будучы рай
упішуць, што й сейбіту трэба есці?»

Машыны ў каго ці ў каго мазалі —
у ўсіх на лепшае гаслі надзеі;
вось так, з году ў год, на збяднелай зямлі
*ішло пахаванне вялікай ідэі.*

Але ўваскрасае, часам яна
высокай нівай, катэджамі вуліц,
якіх чакалі нашы здаўна
славутыя ў працы дзядулі, бядулі.

І сонцам высокім сваім вясна
яшчэ абуджае сілы зямныя,
пакуль не настала жыцця энтрапія...

## 4. Запавет

О Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цвет,
у ветры дзікім не загінеш,
чарнобылем не зарасцеш.

Уладзімір ДУБОЎКА.

Была нам вада ў рацэ
бацькоў запаветам,
святлей за расу,
празрысцей за шкло й паветра;
зямля здаровая
з родным матчыным духам,
якую расчосваў я
бараной і плугам;
якую з вясны
*рукамі лашчыў, песціў,*
зямля, дзе цяпер
ні дыхаць, ні піць, ані есці.
Прыйшло насланнё
страшней за пекла, што ў момант
навек разлучыла
з магіламі продкаў, домам;
атрутай засыпала
рэчку, пушчу й поле,
запоўніла сэрца
пякучым горам, болем;
зямлю нашу мілую,
даўні ўвесь наш набытак
адразу зрынула ў вечнасць
нямога нябыту.
І будзе яна марнець
у бязлюднай дзічы,
якіх там народзіць пачвараў,
а мае ж вы радзімічы?!
Мой хлопча любы
суседняе вёскі Бароўкі
з пакутлівым смуткам,
хворы погляд сінявокі;
цікаўныя рукі, —
пытанні ў жыццёвай навуцы:
«А што там у знойдзенай міне,
ці ў той свістульцы».
Пачатак — і сумны канец
*прагі спрадвечнае,*
якою гарыць заўжды
дзіця чалавечае...
Яго хвалююць
прыроды бязмежныя сховы,
і вось ён ужо
яе хістае асновы.
Праменіцца розуму зрок
з адвагай зацятай
у ген таямнічы,
магутны бунтоўны атам.
Зямлі яму мала —
сягае ў зорнае неба,
змушае на гэта
людская ў нечым патрэба.
Штодня няспынна
множыцца мноства людское,—
пусцее планета,
смужнее паветра зямное.
А ў людства імпэт
да нялюдскай бясконцай раскошы,
шукае навука, дзе ўзяць,
як багацце множыць.
Захоплены ёю,
спяваў ёй нядаўна асанну,
але мушу Мальтуза слухаць
спакойна, з пашанай.
Над намі вісіць насланнё,
быццам бомба — пагроза,
якую стварыў
бяздушны д'ябальскі розум.
Пра гэта вежы галосяць
хаўтурным звонам,
нагадвае свечкай жалобнай
Чарнобыля зона.
Зямля, дзе цяпер
ні есці, ні піць, ані дыхаць,
ляжыць, бязлюдная, ў роспачы
ніцай, ціхай.
Адтуль залятае нябачна
у кроў нашу й косці
дагэтуль нязнаная
атрута смяротнае млосці.
У грунт Беларусі ўпілася змяёй
на стагоддзі,
а што з намі будзе,
хто скажа цяпер, мой народзе!
Не раз ты трываў колы й боты
усёй Еўропы,
цяпер ці ўтрываеш
бязлітасны атамны попел?
Якою навукай
нам ніву вярнуць назаўсёды,
ці ж той, што вучыла
як болей браць ад прыроды?
Мо прыйдзе, нарэшце,
адзіная ў свеце навука,
якая Жыццю, каб жыць,
надзейнай будзе зарукай;
зарукай чыстай зямлі,
вады й паветра,
што нам ад бацькоў
святым былі запаветам.
Мне лепей не бачыць,
не чуць бы ўсё гэта
і з пугай
свой лёс зямны гартаць,
па-ранейшаму, плугам.

Псіхолагі і псіхіятры сцвярджаюць, што нават у цяжка псіхічна хворага наступаюць прасвятленні. У час такіх прасветлін, калі душа супакойваецца і ўсё тое, што анармальна бушавала, вярнулася ў свае душэўныя граніцы, чалавек і стараецца падзяліцца з кімсьці, выказаць яму тое, што дагэтуль яго мучыла.

Шыцікаў, канечне, не быў у тым стане, калі яго трэба было лячыць стацыянарна, яму проста патрабаваліся змена абстаноўкі і спакой. Таму старшыня трыбунала распарадзіўся браць Шыцікава сакратарыць у судзе па справах лёгкіх, простых, каб яны не маглі ўразіць яго, растрывожыць. Гэта былі ў асноўным справы аб самавольных адлучках.

Я ў той час падаў рапарт аб залічэнні мяне на вучобу ў ваенна-юрыдычную акадэмію і паслаў туды неабходныя дакументы. Шыцікаў зайшоў да мяне дамоў вечарам, каб параіцца, ці не паступіць на вучобу ў акадэмію і яму. Ён быў старэйшы за мяне на пяць гадоў, меў ужо вышэйшую педагагічную адукацыю, і я, ведаючы яго стан здароўя, не параіў туды паступаць.

Мы тады з ім выпілі пляшку добрага віна, шчыра пагаварылі. Дзіўна, але віно яго не ўзрушыла, не расхвалявала, а наадварот, супакоіла, ён як бы праясніўся, стаў усмешлівым, сабраным, жартаваў, анекдоты расказваў.

— Ты нешта там пішаш, вершы друкуеш,— сказаў ён,— глядзі, і кнігу тваю выдадуць.

— Ну, да кнігі далёка,— адмахнуўся я, сапраўды не верачы, што такое некалі будзе магчымым.

— Напішаш. Дык вось і маю гісторыю можаш апісаць. Мае гісторыі...

З роспытам я не лез, адчуў, што ён сам раскажа пра ўсё. Ён і расказаў, як трапіў на службу ў «Смерш», дзе спачатку вёў усю канцылярыю, а потым, калі камандзіра каменданцкага ўзвода ці каменданта, падстрэлілі немцы, Шыцікава прызначылі на яго пасаду. Абавязкі каменданта ў асобым аддзеле — шырокія: весці гаспадарку, наладжваць ахову аддзела і арыштаваных, адпраўляць арыштаваных у турму, а прыгавораных да смерці — расстрэльваць.

Першай ягонай ахвярай быў паліцай, якога асудзіў ваенны трыбунал да павешання. Была такая ўрадавая пастанова — злоўленых пасобнікаў фашыстаў вешаць прынародна. Шыцікаву і давялося гэта рабіць сярод белага дня перад натоўпам жыхароў пасёлка. Праўда, тады не ён асабіста надзяваў паліцаю пятлю на шыю, не ён выбіваў услон з-пад яго ног. Зрабіў усё гэта падначалены сяржант. А Шыцікаў толькі распараджаўся. Па прызнанні Шыцікава, гэтая першая акцыя яго амаль не кранула, не ўсхвалявала. Той паліцай быў дужа паганы, людзям зла прычыніў багата. Ужо да павешанага прыходзілі некалькі жанчын і білі, білі дубцамі — такая вялікая нянавісць была і ў іх да яго.

Праз некалькі дзён ужо ў іншым месцы асудзілі да павешання старасту сяла, былога калгаснага брыгадзіра. Жонка яго памерла перад самай вайной, пакінуўшы яму двух дзетак. А тут грымнула вайна, немцы прыйшлі, новыя парадкі. Камендант-немец сабраў сяльчан, каб выбралі старасту. Сяляне і выбралі яго, як чалавека прыстойнага, разумнага. Ён адмаўляўся, гаварыў, што не хоча, каб яго потым, калі нашы вернуцца, лічылі памагатым немцам. Сяльчане настаялі, сказалі, што яго яны абароняць,— баяліся, што немцы паставяць старастам чужога. І ён згадзіўся.

Яму як старасту прыходзілася, вядома, выконваць і нямецкія загады — збіраць у насельніцтва прадукты для немцаў, пасылаць людзей на розныя работы. Усё гэта ён рабіў пасля абмеркавання на сходзе, якія збіраў па кожным такім пытанні. Стараста той памог не аднаму чырвонаармейцу, трапіўшаму ў акружэнне, выручаў яўрэяў, памагаў ім схавацца, забяспечваў дакументамі, прапускамі.

Аднойчы ноччу да яго пастукалася жанчына з двума дзецьмі. Стараста іх упусціў у дом. Распытаў, хто яны, адкуль. Жанчына, не ведаючы, што перад ёю стараста, і расказала яму ўсё. Была яна жонка камандзіра пагранічніка, муж загінуў у першым баі, а яна ідзе вось на ўсход. Жанчына і дзеці былі яўрэямі.

Калі жанчына даведалася, што яна ў доме старасты, то ад страху ледзь не самлела. А ён накарміў іх і пакінуў у сябе. Сяльчанам аб'явіў, што жанчына з Каўказа, карачаеўка. Стараста абвянчаўся з ёю ў царкве і жыў разам да вызвалення. За гэты час яна нарадзіла яму яшчэ дзіця.

Прыйшлі нашы, смяршысты пачалі шукаць памагатых немцам. А, вядома ж, якім бы ні быў добры, справядлівы чалавек на пасадзе, што б добрага ні рабіў, усё адно нехта застанецца незадаволены, пакрыўджаны. Знайшліся такія пакрыўджаныя і ў сяле, паказалі на старасту. Ну, а ў смяршыстаў размова нядоўгая, кароткае следства — і ў трыбунал. Вось ён, фашысцкі пасобнік: яйкі і цёплае адзенне немцам збіраў, на рамонт дарогі і моста людзей выганяў... Кароткі быў і прысуд — павесіць.

*У нас жа так было:* варта аб'явіць нейкую кампанію, няхай яна будзе злачынным ідыятызмам, як пачынаецца такая актыўнасць у правядзенні, што не дай Бог трапіць чалавеку ў яе жорны. Выканаўцы такіх кампаній стараюцца адзін перад адным як мага хутчэй вырвацца ўперад, даказаць сваю стараннасць.

Старасту павесілі пры народзе, на майдане перад школай. На гэты раз Шыцікаву самому давялося выканаць прыгавор. Людзі пратэставалі, патрабавалі не вешаць, абураліся, крычалі, што старасту яны самі выбралі, што ён быў справядлівы. Жонка-яўрэйка з дзецьмі на калені падала перад начальствам і перад Шыцікавым. «Татачка, родненькі!» — кідаліся дзеці да бацькі, хапаліся за яго, цягнулі ад шыбеніцы. Начальнік «Смерша», пракурор, старшыня трыбунала, якія прысутнічалі на той карнай акцыі, паспяшаліся змыцца з майдана.

А што мог зрабіць Шыцікаў? Усяго толькі камендант-выканаўца? Ён надзеў пятлю на шыю старасты, выбіў услон з-пад яго ног.

І потым некалькі дзён хадзіў у прастрацыі, не спаў, не еў, падаў рапарт аб пераводзе са «Смерша» на на любую іншую службу. Але з гэтай установы не так лёгка зволіцца. Рапарт пакінулі без увагі — вайна, армія, а ў арміі пасады не выбіраюць.

Расказаў мне Шыцікаў і яшчэ некалькі падобных гісторый. Удзельнічаў ён і ў паказальных расстрэлах перад строем. Расстралялі дваіх мадзьяр — *мужа і жонку.* Муж засек нашага старшыну-кавалерыста. Каля Будапешта гэта было. Той п'яны старшына зайшоў у дом і пачаў гвалціць жанчыну. На яе крык прыбег муж, схапіў сякеру і цюкнуў старшыну па галаве. І да таго напалохаліся абое, што нават не змаглі схаваць забітага. Калі нашы салдаты зайшлі ў той дом праз паўгадзіны, то забіты так і ляжаў пасярод пакоя, а муж і жонка сядзелі *каля яго, як паралізаваныя.*

— Муж засек, калі старшына ляжаў на жонцы.

— А завошта жонку расстралялі?

— А *ты спытай у тых,* хто судзіў,— адказаў Шыцікаў.

Пад канец размовы нашай, пасля выпітай бутэлькі віна, у Шыцікава задрыжэлі рукі, пачаў крывіцца ў канвульсіях рот. Ён *папрасіў яшчэ* віна, выпіў і зноў як бы паспакайнеў, рукі перасталі дрыжаць, і рот не стаў крывіцца.

— Колькі ж гэтых немцаў, мадзьяр, аўстрыйцаў, не *кажу ўжо пра* нашых людзей, было расстраляна смяршыстамі! — ускінуў ён уверх рукі. — Бог мой, падлічыць бы.

Мы пахадзілі тады па горадзе, пасядзелі *каля мора* і разышліся да заўтра.

А назаўтра Шыцікаў не прыйшоў на службу. Я адчуў нядобрае і пайшоў да яго. Як і ўсе мы, ён жыў на прыватнай кватэры, у невялікім пакойчыку. Дзверы не былі замкнёны. Шыцікаў ляжаў у ложку, збялелы і нерухомы. Я глядзеў на яго, баючыся падступіцца бліжэй, стараўся хоць па чым-небудзь вызначыць, ці жывы ці дыхае. Заўважыў, як пульсавала на шыі жылка. Ступіў бліжэй, дакрануўся, пачаў будзіць.

Шыцікаў адплюшчыў вочы, застылым позіркам глядзеў на мяне і, відаць, не пазнаваў. Потым прыўзняў галаву, сеў, працягнуў уперад рукі, скрыжаваў іх на грудзях, нібы адхрышчваўся ад усяго, клаў на сябе *крыж* — сімвал смерці.

— Прэч!.. Згінь!..

— Мікалай, гэта я,— назваў я сябе. —Ты захварэў?

— Ты — Саўкін? А ты жывы? Жывы? І ў ботах? Тады ў цябе боты не знялі?— Ён рагатнуў дзіка і страшна, так і смяяўся нейкі час.

Я маўчаў, не разумеючы, пра якога Саўкіна ён гаворыць, вядома ж, пра нейкага афіцэра, з якога перад расстрэлам знялі боты. Я наліў з графіна ў шклянку вады, ну хоць штосьці ж трэба зрабіць,— падаў яму. Ён піў, захлёбваючыся, разліваў сабе на грудзі, папрасіў яшчэ. І другую шклянку выпіў гэтак жа прагна. Пасля пачаў трэсці раз-пораз галавой, відаць, стараючыся выкінуць з яе, можа, якія прывіды, галюцынацыі. А праз кароткі час адразу неяк абмяк, сцішыўся, ссутуліўся. Зірнуў на мяне ўжо ўцямным позіркам.

— Можа, пройдзем да мора, праветрымся? — прапанаваў я.

— *А служба?— занепакоіўся ён.*

— Пачакае.

— Не, я паляжу, пасплю.

Ён улёгся і накрыў вуха маленькай падушкай.

Тая ягоная споведзь перада мной была ўсяго аднойчы. А потым капітан Шыцікаў зноў замкнуўся ў сабе і стаў мяне цурацца, зноў, як і раней, падоўгу глядзеў задуменнымі або зусім няўцямнымі вачамі ў адну кропку.

У канцы лета я паехаў у Маскву на вучобу ў ваенна-юрыдычную акадэмію, а Шыцікаў застаўся ў трыбунале.

Канец яго сумны, такі, які я і прадбачыў. Ён захварэў псіхічна і трапіў у бальніцу. З арміі яго звольнілі, і што з ім далей было, не ведаю.

Ніхто не ведае і з былых саслужыўцаў Шыцікава.

Ах, капітан Шыцікаў, як жа табе не пашанцавала на той вайне! Ці ж табе, такому ўражліваму і мяккаму характарам, быць выканаўцам смяротных і вельмі часта несправядлівых прысудаў? Ці ж табе вешаць, страляць у патыліцу? Ці ж для цябе гэта служба каменданта «Смерша»? Вунь колькі было іх, смяршыстаў, і ўсе яны жылі лёгка, ніводзін імі расстраляны, павешаны чалавек ні разу не прысніўся, не паўстаў перад вачамі. А ў душы ні ў кога з іх ніколі не ўзнікала жаданне пакаяцца або хоць бы паспавядацца перад кім-небудзь. Лёгка і спакойна яны жывуць і цяпер з добрымі пенсіямі, з гонарам звоняць сваімі ўзнагародамі...

Ты ж, капітан Шыцікаў, такога цяжару на душы не вытрываў. І няхай табе даруе Бог.

# Без падмурка ўзнавіць — немагчыма...

**ЧЫТАЮЧЫ ПРАГРАМУ «СПАДЧЫНА»**

«Трэба вярнуцца назад — гэта будзе прагрэсам».
**Д. ВЕРДЗІ.**

Напачатку працытую праграму «Спадчына», змешчаную у «ЛіМе» 15 чэрвеня г. г.: «Значэнне спадчыны ў жыцці кожнага народа перш-наперш у тым, што яна дае яму падставу і перспектыву духоўнага развіцця, не дазваляе згубіцца на гістарычных шляхах... Прычыны сённяшняга крызісу нацыянальнай культуры ў разбурэнні сістэмы пераемнасці пакаленняў у галіне этнакультурнай інфармацыі — жыццёва неабходнай структуры, якая забяспечвае існаванне этнічнай супольнасці...»

Такім чынам — час збіраць каменне.

Зноў цытата: «Вяртанне старажытнага нацыянальнага мастацтва патрэбна не толькі для вывучэння гісторыі і культуры, але і для таго, каб шматлікія творы сталі рэальнымі каштоўнасцямі ў духоўным жыцці беларускага народа».

І яшчэ цытата: «Першапачатковая мэта патрыятычнага выхавання — вяртанне пачуцця нацыянальнай гордасці. Для гэтага неабходна шырокая прапаганда каштоўнасцей ўкладу беларускага народа ў развіццё культуры і сацыяльны прагрэс народаў СССР, славянскіх народаў Еўропы і свету...»

Усе працытаваныя выняткі датычаць **канцэпцыі**. Па многіх пазіцыях у праграме пазначаны і шляхі рэалізацыі. Але вось што датычыць прафесійнай свецкай музыкі мінулых стагоддзяў — пра гэты пласт культуры праграма маўчыць. Не тое, каб ужо зусім, але «туману» багата. Напрыклад: «У рамках фестывалю наладжваць харавыя і інструментальныя канцэрты, прэм'ерныя канцэрты-адкрыцці...»

Але для таго, каб наладзіць, трэба мець, **што** наладзіць! Што ж мы маем?

Напрыклад, «Полацкі сшытак». Цяпер гэты зборнік — безумоўны, бясспрэчны факт нашай культуры. Але гэта — цяпер. Гадоў з дзесятак таму, калі ансамбль «Кантабіле» пачаў выконваць гэтую музыку (музыканты ансамбля і далі назву нотнаму зборніку — «Полацкі сшытак»), на энтузіястаў паказвалі пальцам, пра сябе ўсміхаючыся: дзівакі. Пры гэтым сябе лічылі занятымі сапраўды важнай справай — ...марнатраўствам. Я і канцэртмайстар Г. Каржанеўская, узяўшыся за выкананне «Анталогіі беларускага рамансу ў яго гістарычным развіцці», таксама пераадольваем цяжкасці як з рэпертуарам, так і з разуменнем неабходнасці гэтай працы. Не, нам не замінаюць — нам не спрыяюць. Праграма «Спадчына» ёсць, а дапамогі няма.

Рэпертуар, падмурак працы ў класічных жанрах, амаль (дый не амаль, а практычна!) адсутнічае. Прычын многа. Напрыклад, такая. У Слоніме існаваў оперны тэатр — у Агінскіх, гэта вядома. Але што яны там ставілі? Гэта патанае ў смузе часу... І барані Божа нам пра тое дазнацца: там жа ўсё было па-польску! Згінь, нячысцік, гэта ўсё не наскае! Між тым, сёння рамансы Д. Смольскага на вершы М. Цвятаевай, Я. Палонскага, А. Вазнясенскага ніхто не называе рускай музыкай, а рамансы Г. Гарэлавай на вершы П. Беранжэ, Л. Стафа, Х. Лопеса — заходняй. Дык як жа быць з рамансамі М. Агінскага, напісанымі на польскія вершы?

Але вось, нарэшце, чытаю: «Праграма «Спадчына» накіравана на захаванне і выкарыстанне ўсіх аб'ектаў культурнай спадчыны на тэрыторыі Беларусі, незалежна ад этнічнага паходжання іх стваральнікаў, а таксама і тых, якія маюць дачыненне да культурнай спадчыны Беларусі за яе межамі».

Ну, што ж, возьмемся за ажыццяўленне. З чаго пачнём?

Ёсць скрыпічныя, фартэпіянныя п'есы, ёсць «Куранты», ёсць «Апалон-заканадаўца», ёсць уверцюры для аркестра. Дзе і калі гэта можна паслухаць? Дзе набыць грамзапісы і ноты гэтых твораў? Адказ трэба шукаць у апошняй карціне гогалеўскага «Рэвізора», а там, як вядома, нямая сцэна.

Дык мо падвядзём рысу пад самадзейным перыядам існавання гэтых жанраў? Чаму самадзейным — ды таму, што ні філармоніі, ні опернаму тэатру гэтыя творы не патрэбныя. І гэта факт. І ніколі адтуль не будзе звернуты погляд у бок мінулых стагоддзяў. І зусім не з прычыны пагарды — проста задачы ў тых устаноў цалкам іншыя. А спатрэбілася б — даўно б мелі ў актыўным рэпертуары «старызну», сёе-тое ўсё ж сабрана. Але мы маем, што маем: «пацёмкінскія вёскі» ў выглядзе адзінкавых выкананняў. Музыканты наконт гэтага часцяком жартуюць: «Твор выконваецца двойчы — першы і апошні раз».

Што ж трэба зрабіць, каб змяніць становішча?

Звернем свой позірк на 160 гадоў назад. Германія. Вядомы Ф. Мендэльсон, адзін з дзівакоў накшталт нашых з «Кантабіле», немаведама навошта па ўсёй краіне збірае ноты нейкага І.-С. Баха. 1829 год, Берлін. Першае, пасля забыцця, выкананне бахаўскіх «Страсцей паводле Матфея». Выкананне, якое сталася паваротным пунктам у гісторыі культуры не толькі Германіі, а ўсяго свету. Міне яшчэ 21 год, і Р. Шуман з сябрамі і музычнае выдавецтва «Брайткопф і Гертэль» створаць «Бахаўскае таварыства», мэта якога — выданне бахаўскай спадчыны. У 1851г. выходзіць першы том, у 1926 г. — 47-мы. Апроч таго, дасюль выходзяць штогоднікі з чарговымі знаходкамі твораў Баха. Ужо сабрана больш за тысячу. З 1900 г. Новае Бахаўскае Таварыства практыкуе і выкананне твораў. Ладзяцца міжнародныя фестывалі, выканаўчыя конкурсы. Зроблены запіс на пласцінкі поўнага збору твораў І.-С. Баха. Да таго ж, бахаўскі архіў, заснаваны ў 1950 г., вывучае музычную спадчыну майстра паводле рукапісаў, копій, ранніх друкаў. Збірае і вывучае біяграфічныя дакументы пра яго самога і ягоную сям'ю, складае паказальнікі літаратуры пра творчасць, натаграфіі, іканаграфіі Баха, збірае гуказапісы, рэдагуе выданні твораў, факсімільныя выданні, выдае дакументальныя матэрыялы. Наладжвае выстаўкі з набыткаў архіва.

Дадамо ў працяг размовы. З 1955 г. у Гале функцыянуе «Гендэлеўскае таварыства» з аналагічнымі мэтамі і задачамі, з 1841 г. у Зальцбургу «Моцартэум» робіць тое ж самае ў адносінах да творчасці В.-А. Моцарта.

Чую пытанне скептыка: пры чым жа тут Беларусь? На жаль, ні пры чым. Так, згодны: гэткай магутнай постаці, як Бах, Гендэль або Моцарт, на Беларусі не было. Але нешта ўсё ж такі было! Мы ж дасюль нічога толкам не ведаем пра свецкае прафесійнае музычнае мастацтва мінулых стагоддзяў у нашым краі. І не даведаемся, калі не створым для гэтага інфраструктуру. Працы Г. Барышава, А. Капілава, В. Дадзіёмавай пры ўсёй іх адметнасці — выключэнне, а не правіла. Да таго ж, займаюцца яны даследчыцкай справай за свой кошт і ў вольны ад асноўнай працы час.

А што калі... аднавіць капэлу XVIII стагоддзя? «Капэлу» як інстытут, як тое было ў Радзівілаў, у Агінскіх, у Эстэргазі? З такой вось структурай: першае — выканаўчы калектыў (аркестр, хор, балет, салісты) і другое — навуковы цэнтр-архіў. Накірункі працы можна запазычыць у бахаўскіх таварыства і архіва.

Уявім сабе тыднёвую праграму «капэлы». Панядзелак — араторыя, аўторак — опера, серада — балет, чацвер — сімфанічны канцэрт, пятніца — вечар рамансаў, субота — камерная інструментальная музыка. Навуковы цэнтр вядзе пошукі музыкі Беларусі мінулага, а выканаўцы яе ўзнаўляюць. Навуковы цэнтр рыхтуе творы да публікацыі, да запісу. Тады і ажыццёвіцца палажэнне праграмы «Спадчына», цытую: «Стварыць на Беларускім тэлебачанні і радыё цыклы «Музычныя помнікі Беларусі», увесці адпаведныя пастаянныя рубрыкі ў рэспубліканскім друку. Дзяржтэлерадыё БССР трэба было б прадумаць шляхі рэалізацыі праграмы «Залаты фонд (скарбонка)» для масавай прапаганды музычных помнікаў Беларусі».

Зноў чую голас скептыка: няблага прыдумана, але што — гэтак багата рэпертуару? Так, ізноў я папаўся. Аднак пытанне хоць і надзённае, ды не своечасовае. А калі азірнуцца назад? (Перачытайма эпіграф!)

Дык вось, і 100, і 200, і 300 гадоў таму свецкая музычная культура Беларусі была інтэграваная ў сусветную. І другой задачай «капэлы» трэба зрабіць узнаўленне тагачаснай атмасферы. На Беларусі ж працавалі Паізіела, Стэфані, іншыя майстры. Тут ставіліся оперы і балеты і італьянцаў, і немцаў, і французаў... Ну, і што скажа скептык наконт такой перспектывы?

Нарэшце, чую пытанне: а дзе ж размясціць капэлу? Яшчэ раз разгорнем праграму «Спадчына»: «Адрадзіць у межах Верхняга Горада Мінскі гарадскі тэатр, што быў узведзены ў пачатку XVIII стагоддзя». А калі там жа адкрыць музей гісторыі музычнай культуры? А яшчэ — адрэстаўрыраваць, згодна з праграмай, Ружанскі тэатр XVIII ст., Гродзенскі тэатр XVIII ст., мінскі Ратушны тэатр, Слонімскую канцэртную залу М. К. Агінскага? Інфраструктура, такім чынам, будзе створаная ў досыць прыстойным аб'ёме. Дакладней, адноўленая. (Гл. эпіграф!).

Для таго, каб жыла кніга, трэба пабудаваць бібліятэку. Для таго, каб жыла карціна, трэба пабудаваць галерэю. Музыка жыве толькі ва ўмовах выканання. Чайкоўскі неяк заўважыў: «Напісаная, але не выкананая опера не мае ніякага сэнсу». Дык вернем жа да жыцця свецкую музыку мінулага, вернем яе спрадвечны сэнс.

Геніяльны Вацлаў Ніжынскі быў сынам, унукам, праўнукам і прапраўнукам балетмайстраў і артыстаў беларускіх балетных тэатраў. Каб не адвёз яго бацька вучыцца ў Пецярбург, ён гэтак бы і застаўся «артыстам трохкутніка» Наваградак — Слонім — Шклоў. Ні Расія, ні ўвесь вялікі свет так і не даведаліся б пра існаванне генія.

Хто ведае, якія адкрыцці чакаюць нас цяпер на ніве музычнай гісторыі Беларусі...

Вядома, у фальклору ёсць інфраструктура: народныя гурты, прафесійныя ансамблі — танца, «Харошкі», «Свята», «Жывіца», народны хор і г. д., адпаведны інстытут Акадэміі навук. Культавая музыка, нават у самыя неспрыяльныя для яе часы, жыла і застаецца жыць у храмах. У старадаўняга свецкага мастацтва няма прытулку. Пакуль няма. Выкажу крамольную думку. Кансерваторыя наша, хоць і завецца беларускай, па сутнасці беларускай не з'яўляецца. Бо для нацыянальнага аблічча патрэбны нацыянальны рэпертуар. А пакуль наша кансерваторыя, у гэтым сэнсе, якая заўгодна: нямецкая, французская, руская, італьянская, толькі не беларуская. І «капэла», калі яна будзе, магла б істотна зрушыць гэтую праблему ў нацыянальным кірунку.

Усе гэтыя меркаванні я выказваў калегам-спевакам, музыкантам, выкладчыкам кансерваторыі, пісьменнікам. Падтрымліваюць вельмі горача. І ўсё ж такі, друкуючы свае нататкі, я звяртаюся да патэнцыяльных выканаўцаў і слухачоў. Хацелася б ведаць вашу думку наконт сказанага.

Хацелася б ведаць, што наконт гэтага думаюць і стваральнікі дзяржаўнай праграмы «Спадчына»: Міністэрства культуры БССР, Беларускае аддзяленне Савецкага фонду культуры, Белсаўпроф, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. У праграме ж сказана, што «канцэпцыя грунтуецца на неабходнасці карэннай змены ў адносінах да сферы культуры з боку савецкіх і гаспадарчых органаў, наданні ёй прыярытэтнага становішча ў планах сацыяльна-эканамічнага развіцця, будаўніцтва ўстаноў культуры ў той колькасці, якая неабходна для забеспячэння ўласнай патрэбы і якая адпавядае ўзроўню перадавых у эканамічных адносінах краін». Абвешчаная ж, але не выкананая праграма не мае ніякага сэнсу.

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ,**
**заслужаны артыст БССР.**

Своеасаблівыя па змесце і жанрах творы У. Караткевіча даўно вабяць беларускіх кінематаграфістаў, ды няшмат хто з рэжысёраў адважваецца ўвайсці ў складаны свет пісьменніка. Першай спробай стаў фільм «Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка», паводле рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», пастаўлены У. Бычковым амаль дваццаць пяць гадоў назад. Другі «заход» да Караткевіча праз трынаццаць гадоў зрабіў рэжысёр В. Рубінчык: на экранах з'явілася «Дзікае паляванне караля Стаха». У 1983 годзе «хатні» экран прадставіў тэлеглядачам «Чорны замак Альшанскі» ў пастаноўцы М. Пташука...

Новы, вытворчасці 1990 года, фільм «Маці ўрагану» — цалкам «на сумленні» кінематаграфістаў, бо самога аўтара п'есы ўжо няма ў жывых. Ю. Марухін, пастаноўшчык і галоўны аператар новай кінастужкі, раней меў творчыя кантакты з У. Караткевічам — у 1973 г. ён здымаў па ягоным сцэнары навелу «Чырвоны агат».

У прадмове да п'есы У. Караткевіч вызначыў «некалькі апорных пунктаў для рэжысёрскай канцэпцыі», даў характарыстыку часу дзеяння і акалічнасцяў, што абумовілі сялянскія хваляванні ў Крычаўскім старостве ў 1743—1744 гг., паўстанне пад кіраўніцтвам Васіля Вашчылы. Пра яго аўтар п'есы піса: «Вашчыла — войт вёскі Селішча і крыху гандляр. Ездзіў скардзіцца да Радзівіла ў Варшаву, па вяртанні атрымаў ад арандатараў 150 бізуноў, цяжка хварэў. У 1731 годзе зноў скардзіўся (у Мір ездзіў, быў затрыманы слугамі Гдаля, «тыранскі» збіты і кінуты ў Крычаўскую турму»).

Аналагічныя характарыстыкі дадзены іншым персанажам п'есы. Гэта, напэўна, дапамагло пастаноўшчыкам фільма і ў выбары выканаўцаў роляў, і ў абмалёўцы вобразаў. Дзе-нідзе нават адчуваецца скаванасць рэжысуры «апорнымі пунктамі», вызначанымі драматургам (у прыватнасці, у трактоўцы ролі князя Геранiма-Фларыяна Радзівіла: «Вар'ят, памешаны па ўсіх пунктах: грамадскім, рэлігійным, палавым». Такім яго і грае артыст А. Філіпенка).

«Маці ўрагану» — гісторыка-рамантычная драма. Істотных перайначанняў ідэйнага зместу п'есы кінадраматург У. Галаваў і рэжысёр Ю. Марухін не рабілі. Яны імкнуліся пераадолець сцэнічную замкнёнасць п'есы, паказаць паўстанцаў у адзінстве з акаляючым асяроддзем, спалучыць камернасць з маштабнасцю.

Структуру кінатвора пастаноўшчык падначаліў, як я зразумела, тром асноўным момантам: нарастанне гневу народнага, унутранае супраціўленне сына Маці ўрагану — Васіля Ветра забойству і ўсведамленне неабходнасці гэта рабіць, выкрыццё Радзівіла і радзівілаўшчыны. Крыху змясціліся акцэнты ў паказе персанажаў: Вашчыла адышоў на другі план, саступіўшы месца Васілю Ветру; «заземлены» вобраз Маці ўрагану — Агны.

Намаганні рэжысёра-аператара і здымачнай групы былі скіраваны на тое, каб узнавіць атмасферу, што выклікала выбух народнага гневу, паказаць сілу і своеасаблівасць характараў кіраўнікоў і ўдзельнікаў паўстання. У творах У. Караткевіча, асабліва ў п'есе «Маці ўрагану», значнае месца займае каханне. Сцэны вяселля Васіля і Надзеі, іх кароткай пяшчоты кантрастуюць з разгулам Радзівіла. На гэтым фоне агульна-чалавечым сэнсам напаўняюцца галоўныя падзеі — паўстанне, барацьба Вашчылы, Ветра і іх паплечнікаў супраць прыгнятальнікаў і рабаўнікоў сялянства. Кульмінацыйныя сцэны — сутыкненне процілеглых сіл. З іх бачна гістарычная непазбежнасць паўстання. У той самы час аўтары даюць магчымасць гледачам разважаць над выбранымі галоўнымі героямі спосабам дзеяння ў час, калі на перамогу не было шанцаў.

# Пафас паўстання

**Экранізавана п'еса У. Караткевіча «Маці ўрагану»**

Трывожнай была атмасфера напярэдадні паўстання... Сяляне пакутавалі ад пабораў арандатараў, здзекаў княжацкіх паслугачоў, бяспраўнасці. Расла рашучасць да супраціўлення. На пагрозу зборшчыкаў падаткаў Гдаля і Шмуйлы Іцкавічаў высекчы за непакорлівасць Агна Вецер (Маці ўрагану) адказвае з выклікам: «А госць няпрошаны не зведаў бязмена ў лоб?..» Карчмарка Магда (Т. Мархель) дадае: «Будзе табе чынш (падатак) і два чыншы... вітымі вяроўкамі гладзіць прымусім»...— «Кнут і молат — у каго грошы», — насмешнічае радзівілаўскі камісар і падпальвае хату... Факел падае з яго рук ад кулі Лаўрэна...

Напружанасць, якую адчуе ўважлівы глядач, падтрымліваюць кантрастны характар мізансцэн, няўстойлівае асвятленне розныя дэталі асяроддзя (мастак І. Тапілін, кансультант А. Мальдзіс).

Чалавекам, які перакананы, што з прыгнятальнікамі трэба змагацца ўсім гуртам, увайшоў у фільм Васіль Вашчыла (Г. Гарбук). Аўтары падрыхтавалі да гэтага і яго эмацыянальны стан, пачаўшы экранны расповяд кадрамі пакарання за спробу шукаць справядлівасці. Але гэта зразумела толькі тым, хто чытаў п'есу і напісанае яе аўтарам тлумачэнне. Непасрэдна ў дзеянні кінатвора вядомая ў гісторыі асоба — Васіль Вашчыла ўключаецца з часу яго з'яўлення на хутары Агны Вецер.

Вашчыла лічыць, што трэба неадкладна дзейнічаць, паехаць у Крычаў, дзе людзі падрыхтаваны да паўстання. Прапануе Васілю Ветру пакінуць вяселле і накіравацца туды.

Цяжкі выбар для Васіля. Ён хоча жыць, кахаць, радавацца. Вецер бачыць мудрасць боскую не ў тым, каб праліваць кроў, а ў тым, каб «яшчэ неяк жыло каханне на гэтым свеце. І нават на гэтай няшчаснай зямлі». Вецер спрабуе пераканаць Вашчылу, што не можа забіваць нікога, бо ўвайшло ў яго каханне. «Я пайду з табой і загіну ў першым жа баі, таму што цяпер я не магу забіваць, нікога не магу»,— гаворыць Вецер.— «Няхай будуць праклятыя ўсе словы на свеце. І гэтая твая пісьменнасць, якая нам так патрэбна. Няхай будзе праклята ўсё, што робіць з мужчыны торбу з трыбухой. Я не думаў, што можа быць такі чалавек, які ціскае жонку, калі братоў яго ціскаюць кляшчамі, які глядзіць у неба, а народ яго ў гэты час глядзіць у вочы катам і думае апошнімі думкамі — хто яшчэ тыцне яму пікаю ў бок». Так лічыць Вашчыла. А Вецер у адказ яму: «Твая душа гарыць ад ганьбы, спіна ад батагоў. Толькі кроў, кроў пальецца, нягледзячы, з чыіх жыл яна цячэ. І затопіць усё». Вашчыла: «Так, нягледзячы, хто князь, хто раб. І калі раб толькі гэтым можа даказаць, што роўны князю перад законам боскім, — няхай яна пральецца».

Дыялогу Ветра і Вашчылы адведзены значны метраж фільма. Сцэны гэтыя могуць падацца статычнымі, недастаткова кінематаграфічнымі. Рэжысёр-аператар так вырашыў іх, відаць, таму, што хацеў падкрэсліць сучасны сэнс спрэчак, акцэнтаваць увагу на маральным апраўданні ўчынкаў кожнага, хто стаіць перад выбарам: як, у імя чаго дзейнічаць?

У фільме не толькі розныя па светаразуменні героі, але і розныя па творчым багажы акцёры. Калі для купалаўца Генадзя Гарбука роля Вашчылы — адна з многіх, сыграных у тэатры і ў кіно, дык Аляксандр Гаманюк упершыню стварыў вобраз такога плана. Брэсцкі акцёр не выглядае бездапаможным у пары з майстрам, тут і далей ён псіхалагічна апраўдана пражывае драму чалавека, які быў народжаны для шчасця і дабра, а лёс наканаваў яму іншае.

У Вашчылы з «Маці ўрагану» ёсць штосьці роднае з тымі героямі, якіх Г. Гарбук сыграў у кінадылогіях «Знак бяды» (Пятрок) і «Чорны замак Альшанскі». Пра гэта можна здагадацца па буйных планах, калі блакітныя вочы акцёра «змякчаюць» характар. І ўсё ж вобраз Вашчылы наўрад ці назавеш мастацкім адкрыццём. Выканаўцу ролі не стае рэальнага дзеяння, важнейшай перадумовы праяўлення характару. У выніку — яркая гістарычная асоба не атрымала ў фільме адпаведнага адлюстравання.

У п'есе аналагічныя сцэны даўжэйшыя, у дыялог уключаны больш спектр маральна-філасофскіх праблем (сярод іх і асветніцтва, і роля кнігі ў фарміраванні гістарычнай самасвядомасці). Скарачэнню (непазбежнаму пры экранізацыі) падвергліся сцэны Маці ўрагану. Гэта адбілася на вобразе, які ў многім вызначае філасофскі сэнс і жанравыя асаблівасці фільма. Рэжысёр Ю. Марухін і артыстка Л. Палякова ўбачылі ў гэтым вобразе Маці зямную, здольную раздзяліць з сынам і надзеі на шчасце, і трагізм лёсу. Знівеліравана другая—сімвалічна-метафарычная сутнасць вобраза. І па назве п'есы, і па яе змесце Агна — увасабленне сілы, што вырастала з несправядлівасці. Да такога ўзроўню вобраз Агны, Маці ветру-ўрагану вырастае толькі пад канец дзеяння (у часе пахавання паўстанцаў і трагічнага паядынку ў фінале фільма).

Не знайшлося месца для рэтраспектывы гібелі мужа Маці ўрагану — Юрася Ветра, а таксама настаўніка, на якога спасылаецца Васіль Вецер. Калі б хоць частка слоў-успамінаў Вашчылы пра Юрася, а Васіля пра свайго настаўніка, што вучыў дабру і праўдзе, была разгорнута ў зрокавы вобраз, — эмацыянальнае ўздзеянне фільма было б, мне здаецца, мацнейшым.

Спроба паглыбіцца ў філасофскі змест п'есы была ў сцэне размовы Васіля Ветра з адвергнутым людзьмі пракажоным (драма яго — у вачах, руках, голасе артыста В. Тарасава, выканаўца гэтай эпізадычнай ролі). Радасць ад спагады, спачування, якая спачатку ахапіла пракажонага пры сустрэчы з Ветрам, змяняецца ўсведамленнем: «Братка, што ж ты нарабіў. Ты ж сказаў — ведаю. Я ж... пракажоны»... — «Дай руку, брат», — адказвае Вецер. Стваральнікі фільма імкнуліся ўзняць гэтую сцэну да сімвалічнай. Пасля слоў Васіля: «Цяпер я такі ж, як ты, не магу абняць маці, пацалаваць жонку, падаць руку сябру. Але нічога, іншы раз чалавеку неабходны безнадзейнасць і мужнасць»... Буйным планам зняты крыж-распяцце, а за кадрам — словы скаргі: як прасіў кавалак зямлі, а замест яе паслугачы арандатараў спалілі яго хату.

Сцэна завяршаецца кадрамі ў пячоры, дзе ўсхваляваны і задуменны Вецер размаўляе вершамі. Да такога прыёму не раз звяртаўся аўтар п'есы, уводзячы ў дзеянне ўласныя вершы, народныя прымаўкі і песні, словы са Свяшчэннага пісання. У фільме працяг дыялога вершамі або песнямі не заўсёды арганічны, але ён спрыяе спасціжэнню нацыянальнага характару п'есы і яе персанажаў. Адзначым, як характэрную асаблівасць экранізацыі «Маці ўрагану», тое, што фільм здымаўся на беларускай мове (толькі некалькі акцёраў гаварылі па-руску, а потым агучваліся па-беларуску), а пасля дубліраваўся на рускую. Звычайна бывае наадварот: беларусьфільмаўцы ўсё яшчэ не давяраюць мове свайго народа, а многія яе і не ведаюць. Творы ж іхнія ад таго трацяць адметнасць. Вядома, непаўторнасць твора вызначаецца не толькі моваю. Светапогляд і светаўспрыманне герояў, іх лёсы, атмасфера жыцця «вянчаюць» справу. Аднак мове ў гэтым працэсе належыць першасная роля.

«Маці ўрагану» — твор пра народ і ягонае змаганне за волю і лепшую долю. Натуральна, што масавыя сцэны ў ім займаюць значнае месца. Адна з першых такіх сцэн — народны сход, дзе Вашчыла абвяшчае згоду Васіля Ветра найсці з імі супраць рабаўнікоў прыгнятальнікаў. Камера фіксуе шматлікі натоўп, выхоплівае з яго Вашчылу, Ветра, Агну, Надзею, іншых удзельнікаў падзеі. На ўзвышэнні — Вецер, ён заклікае ісці на цяжкую справу і папярэджвае: «хто здрадзіць нам, на таго пакладу руку і той чалавек загіне, і клятву гэту змацавала мая маці».

...Аціхае бой, паўстанцы засыпаюць зямлёй і адпяваюць забітых...

...«Чаго яны дамагліся? Ці такой цаной трэба заваёўваць волю?» — задаеш сабе пытанне. Паўстае яно і перад героямі фільма. Апошнюю размову Вашчылы і Ветра рэжысёр вырашае як працяг іх спрэчак у пачатку фільма.

— Гэта канец усяму,— з жалем гаворыць паранены Вашчыла.

— Не, ты яшчэ вернешся, Вашчыла,— супакойвае яго Вецер. — Я толькі хачу запытаць цябе: ці не дарэмна нарадзілі нас нашы маці?

— Ах, Вецер, сынок,— толькі і мог адказаць завадатар паўстання.

Падзеі, якія вынесены на экран, паказаны, можна сказаць, з пераменным поспехам: то па-мастацку выразна, то інфармацыйна. Ад таго фільм то набірае ўзровень гістарычнай драмы, то не вытрымлівае яго. Такі кантраст адчуваецца і ў фінальных, неадназначных па сэнсе сцэнах.

Пасля праходу Васіля з забітай Надзеяй на руках, рэтраспекцыі кадраў вяселля, пагоні коннікаў за паўстанцамі, браты Ветра апынуліся ў падзямеллі радзівілаўскага палаца. Слоўны паядынак іх з катам нейкі малазначны, хоць словы гаворацца высокапышныя. Драматызм сітуацыі адчуваецца з моманту, калі на Васіля і Васку Ветраў, папа Антоха апранаюць шкуру мядзведзя і спускаюць на іх раз'юшаных сабак. Гінуць паўстанцы, Маці ўрагану выносіць смяротны прысуд катам, датыкаючыся да кожнага з іх рукамі, у якіх — няшчадная сіла. «Мой хлопчык загінуў страшна, але сярод родных, таму што мой хлопчык — чалавек, а вы — пацукі»,— пасылае апошні праклён Радзівілу і яго хеўры Агна.

Фільм «Маці ўрагану» ад крытыкі не абаронены. Стваральнікі яго не заўсёды захапляюць мастацкім асэнсаваннем прызначанага для сцэны твора. Але агульны вынік іх намаганняў варты ўвагі і павагі. Сам пісьменнік і драматург звяртаўся да таго, хто будзе ставіць п'есу, з просьбай улічыць, што пафас паўстання — яе галоўная тэма.

**Ефрасіння БОНДАРАВА.**



Кадр з фільма «Маці ўрагану». Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

# Сэрцы відушчыя...

**Не хочаш верыць у гэта і на нейкія хвіліны забываешся, што амаль усе яны пазбаўлены зроку... Хораша пяюць. Вялікая бяда абвастрае слых, памяць, чуйнасць сэрца; гісторыя ведае нямала прыкладаў, калі нават ад нараджэння сляпыя людзі рабіліся музыкантамі, і сапраўднымі. Пра тое ж гавораць і народныя паданні...**



Самадзейны народны хор вучэбна-вытворчага прадпрыемства БТС.
Фота Ул. КРУКА.

**І вось сабраліся яны на свае свята — па ініцыятыве Цэнтральнага праўлення Беларускага таварыства сляпых у Мінску адбыўся І Міжнародны фестываль-конкурс хораў таварыстаў і саюзаў інвалідаў паводле зроку. Больш за 900 удзельнікаў з Балгарыі, Польшчы, Літвы, Арменіі, Украіны, Масквы і Ленінграда, і, канечне, Камерны хор БТС пад кіраўніцтвам Л. Пашчанкі. Некалькі дзён яны выступалі ў аўтазаводскім Палацы культуры, журы на чале з М. Дрынеўскім вызначала лепшых. 1-е месца падзялілі балгарскі і літоўскі калектывы, 2-е занялі мінчане, 3-е госці з Арменіі і Грузіі. Лаўрэатам міжнароднага конкурсу стаў таксама Іван Тамашэвіч — мастацкі кіраўнік музычна-эстраднага аб'яднання БТС і яго саліст. Вось што ён расказаў:**

— Летась мы выступалі з хорам у Балгарыі, пазнаёміліся з тамтэйшым хорам; сам я тады нават без рэпетыцыі праспяваў з імі куплеты Эскамільё з «Кармэн». Балгарскі хор — першы ў свеце пеўчы калектыў невідушчых. З 1935 г. ён існаваў як самадзейны, з 48-га стаў прафесійным. Потым мы гастралявалі на Украіне, і таксама ўдала. Разам са старшынёй прызідыума нашага Цэнтральнага праўлення А. Нятылькіным вырашылі паспрабаваць зрабіць свята для душы. Запрасілі і бліжэйшых суседзяў — хор з Літвы, які існуе ўжо 20 гадоў, мае нават свае пласцінкі... Словам, удаўся фестываль, кожны калектыў выявіў добры прафесійны ўзровень, нацыянальна адметны почырк у рэпертуары.

Спадзяёмся, што нашу ініцыятыву падхопяць у іншых рэспубліках. А ў нашага аб'яднання, якому ўсяго толькі 2 гады, ёсць і новыя планы: удзел у юбілейных урачыстасцях, прысвечаных Р. Шырме, у аўтарскім вечары малады кампазітараў В. Шлеянкова і Ш. Ісхакбаевай, у рэспубліканскім конкурсе вялікіх эстрадных аркестраў, новыя запісы на радыё і тэлебачанні, выступленні з канцэртамі па Беларусі. Мяркуем развіваць творчыя сувязі з беларускімі кампазітарамі, тым больш, што нашым хорам ужо зацікавіліся Л. Захлеўны і А. Мдзівані. Чакаем цікавых прапаноў і ад маладых аўтараў.

**С.Б.**

# ЗВАНАР АДРАДЖЭННЯ

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Сяргея ПАЛУЯНА*



ЁСЦЬ ГЛЫБОКАЯ гістарычная справядлівасць у тым, што час вяртае з нябыцця ці паўзабыцця такіх асоб, як Сяргей Епіфанавіч Палуян (1890—1910). За апошнія пяцьдзесяць гадоў мы даведаліся пра выдатнага публіцыста і крытыка, якому прарочылі славу «беларускага Бялінскага», значна больш, чым за папярэднія пяцьдзесят. Так, сёння мы дакладна ведаем дату нараджэння яго: 19 кастрычніка 1890 года, месца нараджэння — Брагін, месца вучобы—Мазырская прагімназія і Мітаўская мужчынская гімназія. Ведаем многія невядомыя раней падрабязнасці, звязаныя з яго крышыцкім (цяпер Калінкавіцкі раён) дзяцінствам, узаемаадносінамі ў вялікай (ажно васьмёра дзяцей) сям'і, працай у «Нашай Ніве», удзелам у сацыял-дэмакратычным рэвалюцыйным руху, апошнімі месяцамі жыцця і смерцю ў Кіеве...

У 1986 г. «Мастацкая літаратура» выпусціла ў свет «Лісты ў будучыню» С. Палуяна — першую і адзіную пакуль што кніжку пісьменніка. Кожны жадаючы атрымаў магчымасць пазнаёміцца амаль з усімі творамі палымянага змагара «за долю, волю і народ» (Я. Купала). Кажу не «з усімі», а «амаль з усімі», таму што сёе-тое ў час выдання кніжкі з цэнзурных меркаванняў трэба было замяняць шматкроп'ем або зусім у кнігу не ўключаць (напрыклад, рэцэнзію на «Трэцюю кніжку апавяданняў» У. Віннічэнкі). З другога боку, не ўсё з творчай спадчыны пісьменніка мы яшчэ адшукалі (не ўсё захавалася?). Вядома, што, апрача публіцыстычных і крытычных артыкулаў ды двух апавяданняў, што склалі «Лісты ў будучыню», С. Палуян, па ўспамінах яго блізкага таварыша ўкраінскага пісьменніка М. Шапавала, «укладаў папулярна-навуковыя кніжкі, падручнікі, пісаў апавяданні, вершы, п'есы для тэатра, браўся сам ствараць гісторыю свайго краю»...

Чым жа нас вабіць да сябе гэты вечны юнак, які горда пайшоў з жыцця ў няпоўныя дваццаць гадоў? Думаецца, на гэта пытанне добра адказаў М. Багдановіч: «Тое нямногае, што напісаў Палуян, адносіцца да ліку лепшых надбанняў беларускага друкаванага слова. Але яшчэ больш каштоўны той дух, які ўносіў ён ва ўсё акаляючае сваёй бадзёрай і жыццядзейнай асобай, што валодала разуменнем задач беларускага руху і буйным размаца, што С. Палуян адным з перхам ініцыятывы».

Сапраўды, ніколі не забудзецца, што С. Палуян адным з першых — яшчэ да М. Багдановіча — закладваў падваліны беларускай нацыянальнай літаратурнай крытыкі і тэатразнаўства («Беларуская літаратура ў 1909 гаду», «Якуб Колас. Другое чытанне для дзяцей беларусаў», «Беларускія вечарыны» і інш.). Першы пазнаёміў беларусаў з некаторымі момантамі духоўнага адраджэння ўкраінцаў («Лісты з Украіны»), чувашоў («Нацыянальнае адраджэнне чувашоў»), якутаў («Якуцкі нацыянальны рух»). Адным з першых сярод беларусаў (яшчэ да Я. Карскага і М. Гарэцкага) пачаў пісаць сістэматызаваны курс гісторыі новай беларускай літаратуры («Беларуская паэзія ў яе тыповых прадстаўніках»).Я ўжо не кажу пра некаторыя больш прыватныя праблемы літаратуразнаўства, дзе С. Палуян таксама араў цаліну (тэорыя перакладу, методыка тыпалагічнага аналізу блізкароднасных культур і г. д.).

Аднак усё ж галоўнае — той дух нацыянальнага аптымізму, адраджанізму, што магутна выпраменьваў С. Палуян, прыскараючы выспяванне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, станаўленне самой беларускай нацыі. Той дух не згас і сёння. Больш таго: кола гісторыі, амаль за стагоддзе апісаўшы поўны абарот, зноў паварочваецца да нас, беларусаў, прыхільным бокам. Зноў, толькі на больш высокім узроўні, пачаўся нацыянальны рух, праца па адраджэнню роднай культуры, мовы, гістарычнай памяці. І сам час зноў паклікаў дзеячаў тыпу Сяргея Палуяна. Званароў Адраджэння. Будзіцеляў нацыі. І Сяргей Палуян стаў нашым сучаснікам, паплечнікам у нялёгкай працы-барацьбе за духоўнае ўваскрашэнне нацыі.

Проста здзіўляе суадпаведнасць таго, пра што восемдзесят гадоў назад марыў і клапаціўся С. Палуян, з задачамі і мэтамі сённяшняга дня. Як той кінжал, што да часу ляжаў у похве, творчасць пісьменніка сёння павінна быць запатрабавана дзеля справы і славы Бацькаўшчыны. Многія думкі С. Палуяна цяпер, за дзесяць гадоў да сканчэння стагоддзя, гэткія ж надзённыя, як і ў першым дзесяцігоддзі таго ж, дваццатага, веку.

Пісьменнік пакінуў нам даволі глыбокую і цэласную канцэпцыю нацыянальнага адраджэння, у аснове якой — падняцце нацыянальнай беларускай свядомасці. Гэтая канцэпцыя выкладзена С. Палуянам у серыі артыкулаў «З нашага жыцця», у такіх публікацыях, як «Пра нацыянальную школу на Беларусі», «Беларуская літаратура ў 1909 гаду» і інш. Стрыжнем яе з'яўляецца вызначэнне месца і ролі роднай мовы ў грамадскім жыцці, у самім існаванні нацыі.

Асноўная задача, якую выразна бачыў С. Палуян і якая, дарэчы, востра стаіць і сёння,— адраджэнне роднай мовы, наданне ёй статуса грамадзянскасці. «Калі мы паставілі сабе мэту адрадзіць наш народ на нацыянальнай глебе, то нам у першую чаргу трэба адрадзіць сваю мову,— падкрэсліваў пісьменнік.— Толькі адрадзіўшы мову мы зможам паставіць на цвёрды грунт наш рух. Бо нацыянальны рух, як вялікая жыццёвая гістарычная сіла, можа жыць толькі тады, калі пад яго будзе падведзен такі фундамент, як гібка абробленая мова, дый літаратура і навука ў гэтай мове... Заваяваць ёй месца ў грамадстве—вось наша першая неадложная задача».

С. Палуян, паводле ўспамінаў яго бліжэйшых таварышаў (Ц. Гартны, І. Гермайзе), па сваіх палітычных поглядах належаў да сацыял-дэмакратаў, удзельнічаў у рэвалюцыйным сацыялістычным руху, быў прыхільнікам сацыялістычнай ідэі. Аднак яго сацыялізм быў, як мы сёння кажам, з чалавечым воблікам: гуманны, дэмакратычны. І не толькі. Гэта быў яшчэ нацыянальна акрэслены сацыялізм, які вёў да ўсебаковага развіцця чалавечай асобы, росквіту нацый і, з другога боку, праяўляўся не інакш, як у нацыянальнай форме. Прасталінейна ўспрынятая вядомая Марксава формула: «Пралетарыят не мае радзімы» — была не для С. Палуяна. Інтэрнацыяналізм пісьменніка выяўляўся ў іншым: «Трэба прывучыць яго (народ. — **В. Р.**), каб шанаваў сваё роднае, бо толькі той можа шанаваць чужое, хто сваё найперш шануе». С. Палуяну ў гэтым сэнсе быў бліжэй рэвалюцыйны дэмакрат Тарас Шаўчэнка з яго «І чужому научайтесь, і свого не цурайтесь...»

Аднак якімі ж шляхамі думаў пісьменнік шырыць роднае слова? У якія званы адраджэння, кажучы фігуральна, трэба было найперш званіць?

Галоўным такім «званом», можна сказаць, «цар-званом», была народная школа. Ці не першы ў Беларусі пачатку XX стагоддзя С. Палуян паставіў пытанне пра «нацыяналізацыю школы», якую ён разумеў шырока: і як дэмакратызацыю школьнай справы, вызваленне яе з-пад «неукоснительного наблюдения» кожнага «власть имущего», і як разняволенне настаўніка, пастаўленага ў такія ўмовы, што «сотня вачэй пільна сочыць за кожным яго рухам, за кожным адхіленнем у бок «сепаратызму». Аднак асноўнае ў нацыяналізацыі школы — гэта ўвядзенне ў яе выкладання на роднай мове, гэта садзеянне школы ў развіцці нацыянальнай свядомасці вучняў, пашырэнні «ідэі народнага вызвалення». «Толькі адна гэта нацыяналізацыя школы можа рассекчы гордзіеў вузел беларускай блытаніны, яна адна можа вывесці беларускі народ з таго тупіка, у які завялі яго нашы ўласныя вышэйшыя слаі сваёй антынароднаю палітыкаю, і паставіць яго на шлях агульначалавечага развіцця». Як актуальна гучаць гэтыя палуянаўскія словы сёння, калі мы, стаўшы на грунт «Закона аб мовах у Беларускай ССР», пачынаем пакрысе «нацыяналізаваць» сярэднюю школу, пераадольваючы супраціўленне «ўласных вышэйшых слаёў»!

Ці такая думка.

Крытыкуючы рэдкалегію зборніка «Белорусский учитель» (Пецярбург, 1909) за тое, што для яе «школьная рэформа і агульная асвета стаяць у зусім іншай плоскасці, чым нацыяналізацыя школы», С. Палуян заўважае: «*Упаўшы ў такое прынцыповае неразуменне, рэдакцыя ўжо не можа асвятляць як след патрэбы сучаснага настаўніцкага жыцця, бо яна не хоча зразумець, што без нацыяналізацыі школы на Беларусі немажліва рэфармаваць гэту школу; тут ужо не дапаможа ніякае пашырэнне школьных праграм*». Як кажуць, вось бы гэтыя словы ды «ў вушка» Міністэрству народнай адукацыі Беларусі!.

Апрача школы, першаступеннае значэнне ў нацыянальным адраджэнні Беларусі С. Палуян надаваў друку, мастацкай літаратуры і тэатру. Ён нястомна заклікаў «кінуць згубны адвечны сон», актыўна пашыраць у народзе беларускія кніжкі, газеты, залучаць ім новых чытачоў. Высока ставіў ролю «Нашай Нівы», якая «выклікала да жыцця шмат пісьменнікаў, разбудзіла вялікую грамаду сялянства і інтэлігенцыі». Марыў пра штомесячны тоўсты беларускі часопіс, а да таго часу, пакуль ён створыцца, прапаноўваў «скарыстаць з брацкага зазыву ўкраінскага журнала (мелася на ўвазе «Украінская хата». — **В. Р.**), каторы аддае свае страніцы беларусам».

Што да ролі тэатра ў нацыянальным адраджэнні, то, паводле С. Палуяна, «ролю тэатра ў сучасным беларускім жыцці немагчыма параўнаць нават з роллю тэатра на Украіне ў часы адміністрацыйных забаронаў і прыцясненняў»,—настолькі яна значная. А, як вядома, для адраджэння ўкраінскага народа тэатр зрабіў вельмі і вельмі шмат: «Аб украінскім тэатры паўсюдна пайшлі гутаркі, а разам з тым загаварылі і наогул аб Украіне, аб адраджэнні ўкраінскага народу». Ці не перагукваюцца гэтыя думкі С. Палуяна з нашымі сённяшнямі намаганнямі (на жаль, пакуль што малавыніковымі) адрадзіць беларускі нацыянальны тэатр, стварыць яго ў спрадвечна беларускіх гарадах — Гродне, Брэсце, Гомелі, Магілёве, Маладзечне, Слоніме, Мазыры?.. Магчыма, беларускі тэатр дапамог бы адрадзіць (ці нарадзіць) нацыянальную годнасць у манкуртаў *уласнай гадоўлі*, у той частцы насельніцтва Беларусі, якую найдакладней можна назваць, карыстаючыся выразам У. Леніна, «обрусевшими инородцами» і якія, кажучы яго ж словамі, «всегда пересаливают по части истинно русского настроения»...

Яшчэ адным «званом» адраджэння (апрача школы, друку і тэатра) была для С. Палуяна мастацкая літаратура. «Адраджэнне любога народу пачынаецца з нараджэння ў яго сваёй уласнай літаратуры,— слушна заўважаў пісьменнік.— Бо літаратура з'яўляецца паказчыкам духоўнага жыцця». Гэтыя знамянальныя словы сталі ў пачатку палуянаўскай працы «Беларуская паэзія ў яе тыповых прадстаўніках». У крытычным аглядзе беларускай літаратуры за 1909 год сустракаем не менш крылатае і глыбокае выказванне: «Народ, што з глыбокіх тайніц сваёй душы можа даць літаратуру, скаро культурнасці,— такі народ ужо не памрэ! Жыццё народу выяўляецца жыццём літаратуры, яго развіццё — развіццём літаратуры, яго ўпадак — упадкам літаратуры». Грунтуючыся на такіх перакананнях, С. Палуян і рабіў усё, што мог, дзеля развіцця роднай літаратуры: падтрымліваў таленавітых пісьменнікаў, у тым ліку саміх Я. Купалу, Я. Коласа і М. Багдановіча, уважліва сачыў — як крытык — за маладой тады беларускай літаратурнай нівай, зацікаўлена вывучаў і прапагандаваў дасягненні роднага пісьменства, наладжваў і мацаваў беларуска - іншанацыянальныя літаратурныя кантакты...

Мы гаварылі пра палуянаўскае разуменне асноўных «званоў» адраджэння. А хто ж, паводле пісьменніка, былі тыя «званары», што маглі прымусіць гучаць «званы»?

Гэта найперш народная інтэлігенцыя: настаўнікі, пісьменнікі, журналісты, работнікі культуры, навукі, асветы... Тыя, для каго нацыянальнае адраджэнне «заціснутага народу» можа і павінна стаць справай усяго жыцця. С. Палуян шчыра рупіўся, каб «узгадаваць так патрэбную нам цяпер інтэлігенцыю». Прычым, як і ва ўкраінцаў, гэта будуць «не багатыры, але затое людзі, багатыя маладымі сіламі і верай у сваё дзела». Пісьменнік вызначыў рубеж, з якога спакваля пачала ўзнікаць беларуская інтэлігенцыя: 1906 год. «Гэты год як бы паваротны ў нашым жыцці,— пісаў ён.—Калі раней кожны год прыносіў нам адну толькі страту, калі нашая інтэлігенцыя, адрокшыся ад усяго роднага, старалася забіць народнае пачуццё ў нашых народных масах, калі з кожным годам расла лічба абрусеўшых і спольшчаных беларусаў, то цяпер справа саўсім іншы мае выгляд. Свядомая сваёй нацыянальнасці частка беларускай інтэлігенцыі робіць па сумленню сваю работу, нягледзячы на цяжкія варункі жыцця, на вялікія перашкоды».

І яшчэ адна надзвычай актуальная думка С Палуяна.

Пісьменнік заўсёды і нязменна заклікаў да нацыянальнай кансалідацыі. Так, гаворачы пра ўкраінцаў, чувашоў, якутаў, ён падкрэсліваў, што яны дзейнічаюць разам, «як адзін», «ва ўсёй сваёй грамадзе», «злучаюцца ў розныя хаўрусы, закладаюць выдаўніцтвы». А беларусы? Ці заўсёды і ўсе трымаюцца разам? На жаль, не. А гэта ж «шмат затрымлівае справу падняцця нацыянальнай беларускай свядомасці».

І сёння, калі ўсчаліся спрэчкі паміж асобнымі часткамі беларускага грамадства, калі ўнутраны сепаратызм і знешні нацыяналізм сталі пагражаць непадзельнасці і самой ідэі незалежнасці Беларусі, вельмі надзённа гучаць словы Сяргея Палуяна:

«Толькі ў еднасці — сіла, і калі мы хочам зрабіцца сілай, то трэба нам моцна трымацца адзін аднаго».

Прыслухаймася да гэтага запавету!

Вячаслаў РАГОЙША.

# Абрабаваная спадчына

БОЛЬШ за ўсё я баюся абвінавачванняў у няшчырасці. Мауляў, знайшлася яшчэ адна жадаючая звярнуцца да «моднай» тэмы. Гэта не так, мяне сапраўды хвалюе тое, пра што вырашыла напісаць. Сам час, жыццё з яго складанымі абставінамі, спецыфіка працы ў невялікім музеі, калі прыходзіцца аднаўляць гісторыю роднага краю, не толькі працуючы ў архівах і бібліятэках, але і ў выніку шматлікіх сустрэч з вясковымі людзьмі, паспрыялі майму адыходу ад вульгарна-сацыялагічных поглядаў на рэлігію як на «опіум народа» і «перажытак мінулага». Я цалкам падзяляю думку Д. С. Ліхачова: «Веруючыя мы або няверуючыя, мы павінны разумець, што рэлігія—таксама з'ява культуры, квінтэсенцыя маральнага вопыту, традыцый музычнай, выяўленчай, абрадава-тэатральнай культуры...»

Возьмем у рукі адпаведны том «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» і пагартаем старонкі, прысвечаныя Салігорскаму раёну. Сярод 133 помнікаў — шматлікія магілы загінуўшых, абеліскі і мемарыяльныя дошкі. І толькі адзін раз прачытаем: «Пакроўская царква. Пабудавана ў пачатку 19 ст. ...Помнік драўлянага дойлідства з рысамі барока».

А зараз звернемся да іншага выдання — «Описание церквей и приходов Минской епархии» (Мн., 1879 г.). У той час у нашай мясцовасці існавала 17 праваслаўных храмаў — 12 прыходскіх цэркваў і 5 прыпісных, 2 рымска-каталіцкія касцёлы, дзе зрэдку праводзіліся набажэнствы прыезджымі ксяндзамі, а таксама 7 сінагог у мястэчках (3 у Старобіне і па 2 у Вызне і Пагосце). Мы не толькі даведваемся, як выглядалі цэрквы, але і зазірнём у мінулае:

«До 1670 г. дремучий лес, носивший название «Стражева», покрывал ту местность, где ныне находится Старчицкая Петро-Павловская церковь. Здесь, на Вышковской горе, в 1670 г. построен был монастырь. В 1678 г., 22 сентября, святой Дмитрий Ростовский был здесь для поклонения чудотворной иконе Богоматери... Икона писаная на деревянной доске, украшена серебряною вызолоченною ризою, с такими же на главах венцами. Другая чудотворная икона Богоматери, именуемая Смоленская, величиной в 1/4 аршина, изображена на круглой деревянной доске, в резной золоченой раме, украшена серебряной вызолоченной ризою...

Имеется... Евангелий 5: Киевской печати 1671 г. и 1697 г., Московской 1871 г. и 2 малые» (Ст. 244—247).

Вось што даведваемся пра вёску Князь-Возера:

«Существует предание, что на месте, занимаемом теперь церковью и зданиями причта, был некогда в глубокой древности, Скит, отчего и доселе место, занимаемое ими, носит в устах народа название «Монастырёк». Здесь был открыт приход во вт. пол. XVI столетия... На месте бывшей деревянной церкви, воздвигнутой в 1579 году, построена в 1861 г. тщанием священника Александра Гаховича и прихожан, настоящая деревянная же, на каменном фундаменте, церковь...» (с. 76—77).

Мне вельмі крыўдна, што я ніколі не ўбачу цудатворных старых абразоў, кніг мінулых стагоддзяў, іншых рэчаў, якія захоўваліся тут спрадвеку. Зніклі не толькі цэрквы і нашыя матэрыяльныя каштоўнасці. Мы страцілі значна больш. Лёгкасць і бяздумнасць, з якой выракаліся свайго мінулага, мела шмат праяў. І вось няма ўжо Старчыц — ёсць Акцябр, Князь-Возера стала Чырвоным Возерам, Жываглодавічы — Першамайскам, а мястэчка Вызна — Чырвонай Слабадой. Здаецца, адносна нядаўна «чырванелі» нашы вёскі, а сёння нам даводзіцца чырванець ад сораму за гэтую да тупасці наіўную спробу вынішчыць гістарычную памяць людзей.

Са школьных гадоў мы чулі: царква — гэта такая дрэнная з'ява, пра якую нават няварта весці гаворку. На жаль, такі погляд вельмі распаўсюджаны. І калі звычайны чалавек захоча больш даведацца пра царкву і возьме ў рукі нейкае даступнае яму выданне, напрыклад, «Карманный словарь атеиста» (М., 1986 г.), то на стар. 257 («церковь») ён прачытае: «Специфичным для церкви является то, что отношения ее членов складываются в соответствии с ЛОЖНЫМ МИРОВОЗЗРЕНИЕМ..., НА ОСНОВЕ ИЛЛЮЗОРНО-ПРАКТИЧЕСКОЙ, культовой ДЕЯТЕЛЬНОСТИ. (выдзелена мною.—**Л. Б.**). Вместе с отмиранием религии будет отмирать и церковь».

Не буду спыняцца на «ложном мировоззрении» — гэта тэма асобнай размовы, якая патрабуе часу і пэўнай філасофскай падрыхтоўкі. Хачу не пагадзіцца ў адносінах «иллюзорно-практической деятельности». Дзейнасць царквы на працягу ўсяго часу яе існавання насіла непасрэдна-практычны характар. Не кажучы ўжо пра дапамогу хворым, абяздоленым, пра стварэнне багадзельняў і прытулкаў (праз 70 гадоў цкавання царквы ў краіне дзеля гэтага прыйшлося ўтвараць спецыяльны Фонд міласэрнасці), значны ўклад уносіла царква ў развіццё народнай асветы. Напрыклад, у 1899г. у Мінскай губерні, дзе пражывала каля 2 млн. 287 тыс. чалавек, было 323 школы Міністэрства народнай асветы, у якіх займаліся 27355 чалавек, і 1744 школы Свяцейшага Сінода (царкоўна-прыходскія школы і школы граматы), дзе вучыліся 42 903 вучні. Непасрэдна ў нашай мясцовасці 100 гадоў таму назад працавалі 3 штатныя народныя вучылішчы, якія падпарадкоўваліся Міністэрству народнай асветы, і 37 школ граматы, якія «имеют своею задачею распространение в народе грамотности и основных истин веры и нравственности в небольших крестьянских поселениях». («Отчет о церковно-приходских школах и школах грамоты Минской епархии за 1890-91 уч. год». (Мн., 1894 г., с. 123).

Царква і тое, што з ёю звязана,—гэта сапраўды каштоўны і цікавы пласт нашай культуры і нашай гісторыі. Я бачыла, як хваляваліся дзяўчынкі, як незвычайна свяціліся іх твары, калі на старонках Кнігі запісу браўшых шлюб у Вялікарожанскай царкве ў сярэдзіне 19-га стагоддзя адшуквалі яны знаёмыя прозвішчы і чыталі пра сваіх продкаў:

«Жених — крестьянин Карп Кондратов Бань, православного вероисповедания жительствует в деревне Малом Рожане; невеста — Анастасия Дмитриева Ярошеня, крестьянка села Великого Рожана. Возраст к супружеству имеют совершенный, а именно: жених —20 лет, невеста — 18 лет, и оба находятся в здравом уме... К бракосочетанию приступают они по своему взаимному согласию и желанию, а не по принуждению, и на то имеют благословение своих родителей. По троекратному оглашению, сделанному в означенной церкви, препятствия к сему браку никакого никем не объявлено. Посему бракосочетания означенных лиц предположено совершить в вышупомянутой Рожанской Вознесенской церкви, сего 1858 года, августа 27 дня».

Ці будзе трывалай повязь часоў, якая кранула дзіцячыя душы і дала магчымасць уявіць на хвіліну сваіх продкаў? Цяжка сказаць, бо бліжэйшыя да іх пакаленні — бацькі, нават бабулі з дзядулямі — выраслі ў час, калі памяць аб мінулым нішчылі ўсімі сродкамі. Тады наступіў жахлівы драконаўскі час, калі будаўнікі сусветнага камунізму сціралі з зямлі ўсё, што лічылі непатрэбным: «варожыя класы», «буржуазную культуру», «адсталы светапогляд», «уласнікаў» і «цемрашалаў». Знікалі мільёны сумленных іншадумцаў. Знікалі і цэрквы. У 1930-ыя гады амаль усе мясцовыя цэрквы былі ліквідаваны. Скідвалі званы, зрывалі купалы і прымацоўвалі шыльду: «Клуб». Вернікі добра памятаюць пра гэтыя падзеі:

«У той час, здаецца, у 1933 г., адну старобінскую царкву — Іаанабагаслаўскую, разабралі і адвезлі ў Кулакі, там з яе клуб пабудавалі. Другую, Мікалаеўскую, якая ў цэнтры пасёлка стаяла, таксама перарабілі пад клуб. А ў 1982 г. згарэў гэты клуб, не стала нашай царквы». «Царкву ў Заўшыцах зачынілі ў 1935 г. Святар Аляшкевіч перайшоў у Крывічы. Мо і года не мінула, як з яе пабудавалі клуб. Тады ён у Чырванадворцы падаўся» (з успамінаў жыхароў раёна).

У час акупацыі нямецкія ўлады давалі дазвол на адкрыццё цэркваў. Людзі асвячалі пабудаваныя з храмаў клубы, зносілі туды абразы і ўсё неабходнае — і пачыналася царкоўная служба. Пасля вызвалення Беларусі вернікі зноў страцілі свае будынкі.

У Чырванадворцах царква пратрымалася да новай хвалі (1961—64 гг.), калі з 20 тыс. існаваўшых цэркваў закрылі 10 тыс.

«Пачалі зрываць купал — ніяк у іх не атрымліваецца, тры разы трос абрываўся. Нарэшце, зрабілі сваю справу. І што ж вы думаеце, мо праз год звар'яцеў той чалавек, які пахваляўся, маўляў, разбурыў я царкву і нічога мне ваш Бог не зробіць. Стаў як дзікі ўсё роўна, не размаўляў, а толькі іржаў, быццам той конь. А ў хуткім часе і памёр» (З успамінаў жыхара в. Чырванадворцы Я. Лазоўскага).

Толькі адну царкву ўратаваў Бог ад дзікуноў — Пакроўскую ў Чыжэвічах.

Апошнія гады стала спакайней. Рэчаіснасць сённяшніх перамен у краіне даходзіць пакрысе і да нашага краю. Выканком Салігорскага райсавета вырашыў задаволіць просьбу вернікаў аб адкрыцці праваслаўных храмаў у гарадскіх пасёлках Старобін і Чырвоная Слабада, а таксама ў вёсках Вялікі Рожан і Хораства. Але да адкрыцця цэркваў яшчэ далёка, бо, паводле дадзеных рэспубліканскага Савета па справах рэлігій, за апошнія 2-3 гады ў Беларусі па просьбе веруючых зарэгістравана 181 рэлігійная суполка, а перададзена ім усяго 144 будынкі.

На велікодным тыдні я ішла ў Пакроўскую царкву. І раптам пачула званы. Іх урачысты радасны перазвон нечакана напоўніў душу замілаваннем. Я азірнулася навокал і, здаецца, іншымі вачыма ўбачыла квітнеючыя побач сады, а над галавою—надзіва высокае неба. Усплылі ў памяці і дайшлі да глыбіні сэрца прачытаныя раней у Алеся Разанава радкі: «Мы аддзіраем сябе ад зямлі. Мы ацярушваем ад глухаты свой слых, адтуляем ад слепаты свой зрок, з няўцямнасці выплаўляем сваё разуменне».

...Як хочаццаададраць сябе ад зямлі. І як хочацца жыць на ёй, адчуваючы сябе часцінкай бясконцага, неўміручага сусвету.

**Л. БОЙКА,**
**навуковы супрацоўнік Салігорскага краязнаўчага музея.**

## НА блакітным ЭКРАНЕ

**З 22 ПА 28 КАСТРЫЧНІКА**

**23 кастрычніка. 21.40**

**СПАДЧЫНА**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

Пісьменніца В. Іпатава і археолаг Г. Сагановіч вядуць размову пра войны Вялікага княства Літоўскага XVI стагоддзя.

Прагучаць урыўкі з паэмы М. Гусоўскага.

**24 кастрычніка. 19.25**

**«У ДОБРЫ ШЛЯХ»**

Часопіс «Маладосць» — планы і праблемы.

Удзельнічаюць супрацоўнікі і аўтары твораў, што друкуюцца ў часопісе.

**24 кастрычніка. 21.20**

На атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР.

**«БАЦЬКАЎ ДАР»**

Дажынкавыя песні. Выконвае Акадэмічны хор Дзяржтэлерадыё БССР пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР В. Роўды.

**26 кастрычніка. 18.30**

**НА ПРЫНЕМАНСКІХ ПРАСТОРАХ**

Літаратурна-мастацкі часопіс з Гродна. Праграма складзена з сюжэтаў, прысвечаных пераможцам конкурсу культарганізатараў А. Адамчык, Н. Карпюк і скульптару Л. Богдану.

**27 кастрычніка. 11.35**

**ВЕТАХ**

Кавальскае мастацтва Аляксандра Дубіны.

Перадача раскажа пра ўсесаюзнае свята кавалёў, якое адбылося ў Глыбокім.

**27 кастрычніка. 14.40**

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Тэлечасопіс прапануе абмеркаванне літаратурных твораў, вылучаных на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР. Бяруць удзел У. Юрэвіч, А. Сідарэвіч, Н. Адамчык, І. Жарнасек, Н. Гальпяровіч, У. Матросаў, Т. Чабан. Рэдактары часопісаў «Полымя» і «Беларусь» падзеляцца думкамі аб складаным становішчы беларускага друку.

**27 кастрычніка. 21.15**

Спявае саліст Белдзяржфілармоніі Мікалай Багданаў.

У праграме старадаўнія рускія рамансы.

**28 кастрычніка. 14.15**

**Л. ТАЛСТОЙ. «ГІСТОРЫЯ КАНЯ».**

Спектакль Маскоўскага тэатра-студыі ля Нікіцкіх варот.

Рэжысёр-пастаноўшчык М. Разоўскі.

**28 кастрычніка. 19.20**

**ТВОРЧЫЯ ПАРТРЭТЫ**

Народны мастак БССР А. Бембель.

**28 кастрычніка. 20.05**

**«ЗЯМЛІ МАЁЙ ПАДАННІ...»**

Інсцэніроўка паводле беларускіх паданняў «Адкуль пайшлі беларусы» і «Аб паходжанні Мінска».

Удзельнічаюць артысты А. Ельяшэвіч і Ф. Варанецкі.

Калектыў Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы Марачкінай Ірыне Сяргееўне з прычыны вялікага гора — смерці МАЦІ.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

Літаратура і Мастацтва

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.